20 верасня 2019 | № 35 (646)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Генерал ад беларусізацыі**

**Стар. 11**





# Фантастычная палітыка ці палітычная фантастыка?



Сяргей ПУЛЬША

**Шыла ў мяху не схаваеш, і расійскае выданне «Коммерсантъ» усё ж выдала на-гара пакет «дарожных картаў», якія так імкнуўся схаваць ад беларускага грамадства Сяргей Румас.**

Прэс-сакратарка беларускага кіраўніка ўжо назвала артыкул расійскага выдання «ўкідам»: маўляў, «праграма стане праграмай толькі тады, калі яе падпішуць прэзідэнты, і яна будзе прынятая на вышэйшым Дзяржсавеце ў снежні — зноў жа, калі бакі будуць да гэтага гатовыя». А ці будуць — вялікае пытанне.

Паводле інфармацыі «Коммерсанта», прадугледжаная планамі ступень інтэграцыі — «вышэйшая, чым у ЕС». Плануецца, што з 2021 года на наднацыянальны ўзровень адыдуць мытны кантроль (аж да стварэння агульнай мытнай службы), а таксама энергапалітыка. Магчыма, гаворка ідзе пра з'яўленне саюзнага рэгулятара рынкаў газу, нафты і электраэнергіі. Ужо праз паўтара года краіны могуць уніфікаваць макраэканамічную і прамысловую палітыку, стварыць супольныя рынкі транспарту, гандлю, сувязі, дзяржзакупак, перайсці да сумеснага валютнага кантролю, банкаўскага і фінансавага нагляду, каардынаваць дзеянні на рынку працы і ў сацыяльных пытаннях. Акрамя таго, «Коммерсантъ» паведамляе пра планы па ўніфікацыі гаспадарчага заканадаўства, у прыватнасці, Грамадзянскага і Падатковага кодэксаў.

Пры гэтым расійскае выданне не надрукавала ніводнага скану ці фотаздымку атрыманых ім дакументаў. Аўтар артыкула, намеснік галоўнага рэдактара «Коммерсанта» Дзмітрый Бутрын на запыт беларускіх калегаў дзяліцца паперамі не стаў. Так што, можа быць, гэта сапраўды «ўкід»: «Коммерсантъ» неаднаразова быў заўважаны ў гэтым — асабліва ў моманты, калі беларуска-расійскія стасункі перажывалі праблемныя часы.

Але тое, што гэта «ўкід», — не азначае, што інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці. Як мінімум, пакуль ніхто з адказных асобаў яе не зняпраўдзіў. Як ад прэс-сакратаркі Лукашэнкі, так і ад прэс-сакратара Пуціна мы даведаліся толькі тое, што ёсць нешта «святое — суверэнітэт і незалежнасць краін» (Наталля Эйсмант) і «публікацыі ў СМІ па гэтым пытанні маюць папярэдні характар» (Дзмітрый Пяскоў). Тое, што матэрыял «Коммерсанта» не адпавядае фактам, не сказаў ніхто.

Гэта і дало падставу экспертам разважаць пра тое, што ёсць. Большасць з аналітыкаў (нават сам аўтар публікацыі ў расійскай газеце Дзмітрый Бутрын) адзначаюць — гэта «грамадзіна планаў» наўрад ці будзе рэалізаваная. Прынамсі, у тыя тэрміны, якія пазначаныя ў інтэграцыйных дакументах. «Так увогуле не бывае», — эмацыйна заявіў той жа Бутрын «Еўрарадыё».

Сапраўды, што такое, напрыклад, «агульны мытны кантроль»? Дэ-факта, гэта павінна азначаць, што Беларусь далучыцца да расійскіх «антысанкцый» і будзе давіць бульдозерамі польскія яблыкі? Выглядае вельмі фантастычна.

Больш за тое, калі мытны кантроль адыдзе на «наднацыянальны ўзровень», у чыю казну будуць пералічвацца мытныя пошліны



Фота www.glavred.info

**Беларусь далучыцца да расійскіх «антысанкцый» і будзе трушчыць польскія яблыкі?**

і плацяжы? Як было заяўлена, пра стварэнне нейкага агульнага банку «Саюзнай дзяржавы» і агульнай валюты размова не ідзе. Дык куды пойдуць грошыкі?

Тое ж самае з «саюзным рэгулятарам рынкаў газу, нафты і электраэнергіі». Пад чыім кантролем будзе гэты «рэгулятар» і якія ў яго будуць паўнамоцтвы? Куды пойдуць грошы за транзіт нафты і газу па беларускай тэрыторыі, калі будзе «адзіны рэгулятар»? Дый увогуле — ці паверыць хто ў тое, што Аляксандр Рыгоравіч добраахвотна злезе з «краніку»? Толькі нядаўна ён застрашваў Расію нацыяналізацыяй нафтаправоду «Дружба», а зараз будзе ствараць «саюзны рэгулятар»?

Як будзе выглядаць агульны з Расіяй «фінансавы кантроль» ва ўмовах беларускай «бітвы за ўраджай» і шалёнай фінансавай падтрымкі нашай хранічна стратнай сельскай гаспадаркі?

Зусім бяда з «уніфікацыяй падатковага заканадаўства». Мы самі з падаткамі часцяком разабрацца не можам, а тут нам яшчэ падкінуць на лапаце… Нават Еўрасаюз, якому ўжо шмат гадоў, мае асобныя падаткі ў асобных краінах, а мы раптам выбежым «наперадзе планеты ўсёй»? Не, гэта ж вам не Мінскі паўмарафон…

Не варта забывацца і на тое, што Расія — федэрацыя, і мясцовыя падаткі ў Татарстане і Ямала-Ненецкай аўтаномнай акрузе адрозніваюцца вельмі моцна. Гэта вам не ўнітарная Беларусь! І пытанне тое ж — куды і каму будуць пералічвацца «саюзныя» падаткі? У чый бюджэт? А можа, Крэмль такім завуаляваным чынам вырашыў увесці ў Расіі беларускі «падатак на дармаедаў»?

Тое, што прапісана ў дакументах, якія апрылюдніў «Коммерсантъ», мы, безумоўна, маглі б зрабіць — калі б ад моманту падпісання дамовы аб стварэнні «Саюзнай дзяржавы» ў 1999 годзе мы б павольна, але паслядоўна рухаліся б у гэтым кірунку. Але за 20 гадоў нічога такога зроблена не было. І, гледзячы на «планы» і «дарожныя карты», нас чакаюць яшчэ 20 гадоў перамоваў і ўзгадненняў. Нават калі кіраўнікі краін у снежні гэтыя дакументы з помпай падпішуць.

# Пяць фактаў пра нацыянальныя сімвалы

Анастасія РУБАНАВА

**Дваццаць восем гадоў таму, 19 верасня 1991 года, Вярхоўны Савет БССР зацвердзіў назву беларускай дзяржавы — Рэспубліка Беларусь і яе дзяржаўныя сімвалы: бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».**

### 1. Сімвалы, вядомыя са старажытнасці

У якасці дзяржаўнага герба Княства Літоўскага, старажытнай беларускай дзяржавы, выяву ўзброенага вершніка пачаў выкарыстоўваць вялікі князь Віцень у канцы XIII стагоддзя. Гербам упрыгожаныя ўсе дзяржаўныя дакументы тагачаснай Беларусі, старонкі «Літоўскай Метрыкі» і «Статутаў». «Пагоня» была на сцягах беларуска-літоўскага войска ва ўсіх вырашальных бітвах тых часоў — ад Грунвальда да Оршы.

Пасля Люблінскай уніі «Пагоня» нароўні з польскім белым арлом змяшчалася на гербе Рэчы Паспалітай і на каралеўскім сцягу. Нават пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі, калі Беларусь трапіла пад уладу Расіі, «Пагоня» засталася гербам беларускіх губерняў.

Праект сучаснай выявы бел-чырвона-белага сцяга распрацаваў беларускі грамадска-палітычны і культурны дзеяч Клаўдзій Дуж-Душэўскі. Сцяг быў упершыню ўзняты ўвесну 1917 года на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбургу (Дуж-Душэўскі быў супрацоўнікам гэтага таварыства).

А 12 сакавіка ў Мінску ўпершыню адбылося масавае свята — нацыянальны Дзень беларускага значка. Бел-чырвона-белыя значкі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах. Бел-чырвона-белую стужку ў 1917-м сталі насіць і вайскоўцы-беларусы на франтах Першай сусветнай вайны, каб пазнаваць сваіх.

### 2. Адразу атрымалі прызнанне

У снежні 1917 года ў Мінску падчас Усебеларускага з'езда бел-чырвона-белы сцяг ужо аднадушна прызнаваўся нацыянальным сімвалам Беларусі. У 1918 годзе Сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі зацвердзіў бел-чырвона-белы сцяг, а «Пагоня» была абвешчаная дзяржаўным гербам Беларускай Народнай Рэспублікі.

### 3. Сталі сімваламі мужнасці

У савецкія часы бел-чырвона-белы сцяг на тэрыторыі СССР быў пад забаронай. Упершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі бел-чырвона-белы сцяг залунаў падчас жорстка разагнанага шэсця «Дзяды» ў 1988 годзе. Напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня» для многіх сталі не толькі сімваламі перамен, але і спосабам апазнаць «сваіх»: каб насіць маленькі бел-чырвона-белы значок тады трэба было мець мужнасць.

Пры гэтым усе масавыя акцыі тых часоў — шматтысячныя мітынгі і дэманстрацыі з перакрыццём праспекта Леніна (цяпер Незалежнасці), страйкі рабочых, пікеты — праходзілі пад бел-чырвона-белымі сцягамі.

### 4. Не забароненыя, але непажаданыя

Бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» пазбавілі статусу афіцыйных дзяржаўных сімвалаў у 1995 годзе ў выніку рэферэндуму, які быў ініцыяваны Лукашэнкам. Кіраўнік справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іван Ціцянкоў апроч іншага ўвайшоў у гісторыю як чалавек, які зняў з даху Дома ўраду бел-чырвона-белы сцяг і парваў яго на кавалкі.

Пасля гэтага нацыянальныя сімвалы Беларусі зноў трапілі ў няміласць, хаця афіцыйна іх выкарыстанне не было забаронена. Тым не менш, людзей з сімволікай на акцыях хапалі ў першую чаргу, за майку з «Пагоняй» штрафавалі і нават збівалі, за сцяг, вывешаны на ўласным балконе, пагражалі суткамі арышту, на канцэрты ці спартовыя мерапрыемствы з бел-чырвона-белай атрыбутыкай не пускалі.

У лістападзе 2015 года з выставы, прысвечанай 25-годдзю суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў і 75-годдзю Аляксея Марачкіна, былі знятыя тры творы. Прычым адзін з іх — партрэт амерыканскай мастачкі беларускага паходжання Галіны Русак работы Віктара Маркаўца — за тое, што фон карціны нагадаў цэнзаршы бел-чырвона-белы сцяг.

У адказ актывісты грамадскіх і палітычных арганізацый развешвалі на вуліцах беларускіх гарадоў «100 сцягоў», раздавалі кіламетры бел-чырвона-белых стужак мінакам.

### 5. Нягледзячы ні на што — у трэндзе

Цяпер модна насіць вышымайку ці швэдры з бел-чырвона-белым арнаментам. Усё часцей на вуліцах можна пабачыць аўто, у якіх ёсць «маленькі беларусік», пра што сведчыць адпаведная налепка. Міліцыянты апошнім часам спакойна прапускаюць праз турнікеты оўпэн-эйраў людзей з «Пагоняй» на грудзях (якая, між іншым, уключаная ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі). А вядомыя беларускія спартоўцы выказваюцца ў падтрымку нацыянальнага сцяга: Аляксандра Герасіменя, Віталь Гуркоў, Аліна Талай, Уладзімір Парфяновіч ды іншыя.

Засталося толькі дачакацца, калі гістарычныя сімвалы незалежнасці зоймуць сваё законнае месца. Бо «старадаўняй літоўскай "Пагоні" не разбіць, не спыніць, не стрымаць».

# Сігнал трывогі

Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ

**За апошнія пару дзён шэраг аналітыкаў ацанілі праект «Праграмы дзеянняў Беларусі і РФ па рэалізацыі палажэнняў дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы». Многія з іх палічылі, што гэты дакумент не нясе асаблівай пагрозы суверэнітэту Беларусі.**

Аргументы з серыі «нічога не атрымаецца» выглядаюць цалкам лагічнымі. І менавіта ў гэтым іх асноўны недахоп.

Давайце зададзімся пытаннем: як бы мы ў сярэдзіне лютага 2014 года ацанілі верагоднасць таго, што праз месяц Крым будзе адабраны Расіяй у Украіны? Думаю, пераважная большасць адказала б — 0%. І, тым не менш, гэта здарылася.

Праблема ў тым, што ў экспертаў і расійскага кіраўніцтва — розныя рацыянальнасці. Менавіта таму прагнозы часам разыходзяцца з рэальнасцю.

Ёсць верагоднасць, што цяперашнія інтэграцыйныя ініцыятывы — проста рытуальныя скокі да 20-годдзя дамовы аб стварэнні так званай дзяржавы. Або кан'юнктурная палітычная камбінацыя, падчас якой Масква хоча атрымаць нейкае маральнае задавальненне, а Мінск — чарговую порцыю прэферэнцый.

Але існуюць і іншыя расклады. Шчыра кажучы, з цікаўнасцю верыцца ў тое, што Крэмль ужо на працягу года прыкладвае столькі намаганняў для актывізацыі інтэграцыі (уключаючы шматлікія сустрэчы Уладзіміра Пуціна з Аляксандрам Лукашэнкам) толькі дзеля чарговай порцыі «пацалункаў».

Зноў жа, расійскае кіраўніцтва ўжо мае багаты вопыт зносін з Аляксандрам Лукашэнкам. Наўрад ці ў Крамлі прагнуць зноў прагуляцца па старых граблях. Укладваючы ў цяперашняе «паглыбленне інтэграцыі», Масква вельмі пастараецца, каб пагадненні, якія рыхтуюцца, далі іншы вынік, чым дагавор, падпісаны ў 1999-м.

Не будзем забываць і пра «праблему–2024». Аб'яднанне з Беларуссю — безумоўна, не адзіны варыянт, які дазваляе Уладзіміру Пуціну застацца ва ўладзе пасля заканчэння свайго чарговага тэрміну, і ўжо дакладна не самы просты. Затое вельмі маляўнічы, а расійскі кіраўнік ужо неаднаразова дэманстраваў сваю любоў да спецэфектаў.

Таму спакой экспертаў з нагоды цяперашняга развіцця расійска-беларускага сюжэту выглядае, як мінімум, празмерным. Маючы такога суседа, «перебдеть» лепш, чым «недобдеть». У адваротным выпадку кошт бестурботнасці можа апынуцца катастрафічна высокім.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Банкаўскі сектар: зашмат дзяржавы

**Каля 63% актываў банкаў усё яшчэ ў дзяржаўнай уласнасці, што кепска адбіваецца на іх эфектыўнасці.**

Ацэнкі S&P, аднаго з найбольш аўтарытэтных у свеце кансалтынгавых агенцтваў, паказваюць, што сукупная доля дзяржавы ў капітале банкаў прыблізна гэтакая ж, як і ў рэальным сектары (апошняя, па ацэнках міжнародных экспертаў, таксама вагаецца каля 60%).

З агульным аб'ёмам актываў у 74 мільярды BYN (каля 36 мільярдаў USD) на 1 ліпеня 2019 года банкаўская сістэма застаецца вельмі канцэнтраванай. З 24 банкаў дзве буйныя дзяржаўныя ўстановы — ААТ «ААБ Беларусбанк», і ААТ «Белаграпрамбанк» — складаюць больш за 50% актываў сістэмы і рознічных дэпазітаў, адзначаецца ў даследаванні S&P.

Дзяржава — апрыёры не дужа эфектыўны ўласнік, таму валоданне вялікай колькасцю актываў прывяло да замаруджвання тэмпаў эканамічнага росту, а ў банкаўскім сектары выразілася ў раздачы так званых дырэктыўных крэдытаў прадпрыемствам ды пад рэалізацыю шматлікіх урадавых праграм. Такое фінансаванне вымяралася мільярдамі долараў штогод.

Паводле ацэнак МВФ, у 2011–2014 гадах яно складала ад 4% да 9% ВУП, фарміруючы да 40% крэдытнага партфеля банкаў. Дырэктыўныя крэдыты выдаюцца па разнарадцы зверху, у выкананне шматлікіх указаў кіраўніка краіны і пастаноў урада, як правіла, без належнага аналізу эфектыўнасці праектаў, плацежаздольнасці гандлярзян і прадпрыемстваў ды яшчэ па заніжанай працэнтнай стаўцы. Натуральна, што такія крэдыты патэнцыйна таксічныя для банкаўскай сістэмы і пагражаюць яе стабільнасці. Дагэтуль пазбегнуць значных фінансавых страт банкаў удавалася толькі дзякуючы выплаце за кошт дзяржаўнага бюджэту часткі працэнтаў і асноўнага доўгу пазык.

Складанасці з напаўненнем бюджэту падштурхоўваюць уладу скарачаць аб'ёмы нярынкавага фінансавання, пра што неадночы казалі ў Саўміне і Нацбанку. З улікам такіх заяваў S&P прагназуе, што ў 2019 годзе аб'ем дырэктыўных крэдытаў у параўнанні з леташнім паказчыкам скароціцца на 35% — да 800 мільёнаў BYN, але ў сярэднетэрміновай перспектыве яны будуць складаць не менш за трацііну ўсіх крэдытаў у банкаўскай сістэме.

Паводле ацэнак S&P, цяпер доля таксічных крэдытаў складае каля 12 %. Для параўнання, паводле Нацбанка, удзельная вага праблемных актываў на канец чэрвеня 2019 года знізілася да 5,8% супраць 13% годам раней. Аналітыкі агенцтва папярэджваюць, што паляпшэнне афіцыйнай статыстыкі адбылося толькі праз прымяненне рэгулятарам новай методыкі ацэнкі, а таму дынаміка не адлюстроўвае рэальнага стану актываў.

Росту сапраўднай эфектыўнасці беларускіх банкаў здольнае паспрыяць іх раздзяржаўленне. Са з'яўленнем новых стратэгічных інвестараў можна разлічваць на прыход перадавых банкаўскіх тэхналогій і прыцягненне найбольш танных фінансавых рэсурсаў на міжнародным рынку капіталу. Агенцтва S&P улічвае намер дзяржавы часткова прадаць свае пакеты ў «Белінвестбанку» і «Банку Дабрабыт», на долю якіх прыпадае адпаведна 6% і 1,6% актываў банкаўскай сістэмы, аднак адначасова кансалцер звяртае ўвагу на нявызначанасць вакол здзелак.

Нагадаем, беларускі ўрад з 2015 года абмяркоўвае продаж блокпакета «Белінвестбанка» — 25 % плюс адна акцыя — Еўрапейскаму банку рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) з перспектывай далейшага адчужэння кантрольнага пакета стратэгічнаму інвестару. У чэрвені 2018 года Саўмін ухваліў здзелку пастановай № 414, а ў ЕБРР тады заяўлялі, што набыць пакет акцый плануюць цягам 6–9 месяцаў, аднак дагэтуль прыватызацыя не адбылася. Пад сумненнем і хуткі продаж акцый ААТ «Банк Дабрабыт», кантрольны пакет акцый якога, згодна з мемарандумам аб прыватызацыі ад 2016 года, планавалася прадаць інвестару да 1 студзеня 2020-га.

Няма руху па продажы дзяржаўнага пакета акцый ААТ «Прыёрбанк» (6,31 % за 17 мільёнаў еўра) усё таму ж ЕБРР, пры тым што прадстаўнікі ўлады яшчэ вясной заяўлялі аб дамоўленасцях па кошце з патэнцыйным пакупніком. Акрамя таго, афіцыйна абвешчана аб скасаванні планаў прыватызацыі самага буйнога гульца на рынку — «Беларусбанка», тады як перамовы аб прыватызацыі Белаграпрамбанка» прадметна нават і не пачыналіся.

Замежныя інвестары гатовыя набываць беларускія актывы з дысконтам, які ўлічвае сістэмную і краінавую рызыку, а значыць — танней за кошт капіталу банкаў. Гэта распаўсюджаная практыка для постсавецкай прасторы. Але ўлада Беларусі, здаецца, прымаць правілы рынкавага цэнаўтварэнне не дужа хоча. Між тым, негатоўнасць ісці на цэнавыя саступкі ўжо не раз станавілася прычынай зрыву прыватызацыйных здзелак, таму далейшае раздзяржаўленне банкаўскага сектара апынулася пад сур'ёзным пытаннем.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Курс на цывілізацыю?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нашы «сябры» з Расіі патрабуюць паглыбіць інтэграцыю, а Сінявокая ў чарговы раз паказвае ім хвост. Зараз прарасійскія шавіністычныя сайты захлынуцца слінай. Падстава для гэтага — чарговы дыпламатычны прарыў. ЗША і Беларусь прынялі рашэнне пра аднаўленне дыппрадстаўніцтва на ўзроўні паслоў, паведамляе БелТА.**

Беларусь наведаў намеснік дзяржаўнага сакратара ЗША па палітычных пытаннях Дэвід Хэйл. Гэта зноў «першы візіт чыноўніка такога ўзроўню ў Беларусь за 25 гадоў». І другі — на працягу месяца. Нагадаем, што ўсяго тры тыдні таму з Лукашэнкам размаўляў дарадца прэзідэнта ЗША Дональда Трампа па нацыянальнай бяспецы Джон Болтан.

А зараз менавіта Дэвід Хэйл сказаў: «Я хацеў бы перадаць прывітанне ад дзяржсакратара, які папрасіў мяне прыехаць, каб прысутнічаць на важным гістарычным моманце нашых двухбаковых адносін. Пасля нашай сустрэчы мы зробім абвестку, што будзем абменьвацца пасламі па заканчэнні такой колькасці гадоў без паслоў».

«Мы згодныя з вамі, што тое становішча рэчаў ненатуральнае, ненармальнае. І мы рады, што гэта заканчваецца. Мы закрываем гэтую сітуацыю з прычыны тых крокаў, якія ваша краіна і вы асабіста зрабілі. Таксама адзначаем тое бачанне, якое вы прынялі на ўзбраенне, — большай разнастайнасці як ва ўнутраных справах, так і ў адносінах з навакольным светам. Мы вельмі моцна падтрымліваем гэта бачанне і зробім усё магчымае, каб дапамагчы вам на гэтым шляху», — дадаў намеснік дзяржсакратара ЗША.

Нагадаем, што паслоў ЗША ў Беларусі і Беларусі ў ЗША не было ад 2008 года, пасля ўвядзення ЗША санкцый у дачыненні да канцэрна «Белнафтахім». Тады пасол Беларусі Міхаіл Хвастоў быў адкліканы з Вашынгтона для кансультацый, а Мінск па патрабаванні беларускага боку пакінула Карэн Сцюарт. Колькасць амерыканскіх дыпламатаў у Мінску была скарочаная з 35 да 5 супрацоўнікаў. А дыпламатычныя місіі працавалі на ўзроўні часовых павераных.

Візіт Болтана эксперты звязвалі, у тым ліку, з планамі Беларусі па дыверсіфікацыі паставак расійскай нафты. Маўляў, ЗША актыўна пачынае прадаваць гэтую сыравіну — у тым ліку, танкерамі ў парты Балтыі. І Беларусь можа гэтым скарыстацца, тым больш, што ў нас ёсць досвед такіх закупак аж з Венесуэлы. Таму ўзнікла думка, што амерыканская нафта можа часткова замясціць расійскую. Што не выклікала, канешне, захаплення з расійскага боку.

Цяпер, калі ў Сінявокай з'явіцца паўнавартасны пасол ЗША, адносіны паміж краінамі могуць выйсці на больш высокі ўзровень. Усё ж пасол — гэта асоба, якая мае непасрэдныя стасункі з вышэйшым беларускім кіраўніцтвам. І таму зноў здарыцца вэрхал у расійскіх «патрыётаў» пра «разварот Беларусі на Захад», хаця да такога развароту яшчэ далёка.

Пакуль Аляксандр Рыгоравіч знаёміўся з Хэйлам, яго бліжэйшы сябра і кіраўнік справамі Віктар Шэйман зноў адправіўся ў Зімбабвэ. 16 верасня ён правёў перамовы з кіраўніком Зімбабвэ Эмерсанам Мнангагва, дзе бакі абмеркавалі сумесныя праекты. Што цікава, пра гэта паведаміў таксама не Шэйман і не беларускі бок, а лідар зімбабвійскага народа.

Паводле яго, на сустрэчы быў абмеркаваны прагрэс у здзелках, што былі заключаныя ў студзені гэтага года ў Беларусі. Гэта, напрыклад, стварэнне сумеснай зімбабвійска-беларускай транспартнай кампаніі, на першапачатковым этапе ў якой будзе працаваць ад 20 да 100 машын. Прычым, кампанія будзе займацца перавозкамі па ўсім поўдні Афрыкі. Гэта стварэнне буйнога лагістычнага цэнтра, на якіх беларусы ўжо, падаецца, сабаку з'елі. Яшчэ адзін напрамак супрацоўніцтва — энергетыка. Беларусь мае намер стварыць у Зімбабвэ кампанію, якая пабудуе электрастанцыю на сонечнай энергіі магутнасцю ў 100 МВт.

**Цяпер, калі ў Сінявокай з'явіцца паўнавартасны пасол ЗША, адносіны паміж краінамі могуць выйсці на больш высокі ўзровень. І таму зноў здарыцца вэрхал у расійскіх «патрыётаў» пра «разварот Беларусі на Захад», хаця да такога развароту яшчэ далёка**

І ўжо рыхтуецца пастаўка ў Зімбабвэ 500 аўтобусаў.

Калі ўсе планы здзейсняцца, МАЗ будзе загружаны «пад завязку», і гэта добра. Але варта памятаць, што Зімбабвэ з'яўляецца адной з найбяднейшых краінаў свету. Праўда, і патэнцыйна найбагацейшай, бо, напрыклад, па радовішчах металаў плацінавай групы краіна займае трэцяе месца ў свеце. Такім чынам, нашае супрацоўніцтва — гэта, як кажуць у свеце бізнесу, рызыкоўнае, але, мажліва высокадаходнае прадпрыемства. Тут, па-мойму, рызыкнуць варта.

Выклікае пытанне толькі апошні праект — сонечная электрастанцыя. Калі мы такія прасунутыя ў галіне экалагічнай энергетыкі, навошта нам было будаваць АЭС?

Што да Беларусі, то ў нас незаўважна ідзе выбарчая кампанія. Як заўсёды, яна спараджае кур'ёзы і анекдоты. Напрыклад, вылучэнцу ў кандыдаты ў дэпутаты, актывісту БСДП «Народная Грамада» Валянціну Троцкаму, які збірае подпісы па Старавіленскай выбарчай акрузе №105 у Мінску, ужо вынеслі папярэджанне за парушэнне выбарчага заканадаўства.

Прычынай папярэджання сталі надпісы на стэндзе, якія выкарыстоўваліся на пікетах Троцкага па зборы подпісаў: «Лукашенко должен уйти» і «Моя позиция» з некалькіх пунктаў. Чальцы камісіі вырашылі, што такі фармат парушае як выбарчае заканадаўства, так і заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. Валянцін Троцкі лічыць, што выбаршчык, каб паставіць подпіс за вылучэнне кандыдата, мусіць ведаць яго пазіцыю па важных для грамадства пытаннях. Але нашая кампанія блізкая да «стэрыльнасці» — ёсць пастанова ЦВК, згодна з якой на стэндах могуць размяшчацца толькі біяграфічныя дадзеныя кандыдатаў. Усё астатняе лічыцца агітацыяй, хаця ў дадзеным выпадку Троцкі — яшчэ нават не кандыдат у дэпутаты, і агітаваць у гэтых умовах проста не мае сэнсу.

Альтэрнатыўнае меркаванне, у той жа час, — важная падстава прагрэсу. Напрыклад, у Міністэрстве аховы здароўя пачалі пераглядаць закон «Аб ахове здароўя». Справа закране абортаў. Мінздароўя разлічвае на захаванне 3–4 тысяч жыццяў дзякуючы сямейнаму перадабортнаму кансультаванню. Па выніках 2018 года прыблізна 14% жанчын, якія прыйшлі рабіць аборт, перадумалі і вырашылі захаваць жыццё дзіцяці.

У законе таксама замацаваная норма, якая дазваляе ўрачу-спецыялісту адмовіцца ад правядзення штучнага перапынення цяжарнасці, шляхам пісьмовага паведамлення аб гэтым кіраўніку арганізацыі аховы здароўя, калі адмова непасрэдна не пагражае жыццю або здароўю жанчыны.

Між іншым, менавіта за гэта ў межах кампаніі «Моцная сям'я — моцная Беларусь» ужо доўгі час змагаецца Беларуская хрысціянская дэмакратыя.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Ганна Севярынец

**Рускі філолаг, настаўніца рускай мовы і літаратуры ў адказ на «паглыбленую інтэграцыю» падала дакументы на перападрыхтоўку ў беларускага філолага.**

«Па сутнасці, я — неблагі рускі філолаг. Выкладаць гэты школьны прадмет, чытаць лекцыі ва ўніверсітэце, раскрываць логіку працэсаў і праводзіць паралелі ў межах рускай культуры я магу ў любым стане, ува сне і ў непрытомнасці. Рускі свет быў светам майго дзяцінства, светам маіх захапленняў, светам маіх першых навуковых цікавасцяў і спробаў», — напісала яна.

Але настаўніца вырашыла, што яна — філолаг, «закратаваны і абмежаваны рускасцю сваіх юнацкіх захапленняў, сваёй акадэмічнай адукацыі, сваёй прафесіі». «Болей за тое! Выкладаючы рускую літаратуру ў школе так, як яна падаецца ў праграме і падручніках, я сваімі рукамі накладаю тыя самыя краты, тыя самыя путы і на сваіх вучняў», — зазначыла Севярынец.

Па яе словах, школьная праграма складзеная такім чынам, што настаўнікі «метадычна і неадменна» закладаюць у дзяцей «рускі мір». Напрыклад, у падручніках па рускай мове пішуць пра славянскага першадрукара Івана Фёдарава, хаця Скарына выдаў славянскую кнігу на 40 гадоў раней. «Пасткі і капканы расстаўленыя паўсюль. Тэкст для пераказу: «Мая залатая радзіма» — там пра дзівосы Залатога кальца Расіі. Тэкст дыктоўкі: «Пачатак нашай літаратуры». Там пра Пушкіна. Практыкаванне для аналізу: «Зямля майго дзяцінства». Гэта будзе пра заліўныя лугі Яраслаўшчыны», — зазначае настаўніца.

«Але цяпер так нельга ўжо... Эканамічная інтэграцыя будзе адбывацца гэтак жа сама, як адбылася ўжо інтэграцыя культурная. Ціхім, спакойным чынам яна палезе з усіх шчылін, паплыве з усіх адтулін. На кожным рагу кожнай вуліцы мы будзем разумець і адчуваць: нашае — другаснае, нашае — няўартае. Чужое нам будзе прапанаванае за сваё. Таму я падала заяўку на перападрыхтоўку», — напісала Севярынец.



## Генадзь Давыдзька

**Кіраўнік грамадскага аб'яднання «Белая Русь» адмовіўся дэбатаваць з кіраўніком Руху «За Свабоду» Юрыем Губарэвічам у прамым эфіры «Еўрарадыё».**

Губарэвіч і Давыдзька вылучаюцца ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па адной акрузе. Раней Давыдзька заявіў, што не супраць дэбатаў з лідарам Руху "За Свабоду" пасля рэгістрацыі іх абодвух кандыдатамі ў дэпутаты. У адказ Губарэвіч прапанаваў не чакаць рэгістрацыі і правесці дэбаты ўжо цяпер у студыі «Еўрарадыё».

Давыдзька адмовіўся. «Ну не цяпер. Бо хто ён такі? Ён чалавек, яго паважаюць, у яго ёсць думкі — ну і няхай сабе. Вось калі ён будзе кандыдатам у дэпутаты, тады ў рамках заканадаўства трэба будзе сустрэцца і пагаварыць. Аб планах, аб мэтах. Удакладніць, чаго ён жадае, чаго я хачу. І можа, сёе-тое адзін у аднаго і ўзяць, можа, і параіцца. Я не бачу тут сутыкнення нейкага. Калі ён клапоціцца пра краіну, пра радзіму, то я таксама. Проста там могуць быць розныя пункты гледжання на будучыню, на рэчаіснасць. Ну і нармальна! Але гэта потым. Што цяпер гэта рабіць? Давайце я зараз з усімі буду сустракацца і дэбатаваць! Навошта? Я не бачу зараз для гэтага падставы. Калі ён зарэгіструецца, тады і пагаворым перад тымі, хто хоча нас абіраць», — заявіў Давыдзька.

Пры гэтым Давыдзька прапануе дэбаты не ў эфіры радыё, а ў... адной са школ на іх выбарчай акрузе, дзе будзе праводзіцца сустрэча з выбаршчыкамі!

## Андрэй Зыгмантовіч



**Паводле інфармацыі pressball.by, галоўны трэнер брэсцкага «Руху» Андрэй Зыгмантовіч больш не кіруе камандай. Да бліжэйшага матчу — са «Смаргонню» — футбалістаў рыхтуюць яго памагатыя.**

У клубе гэтую інфармацыю пацвердзілі. Афіцыйная фармулёўка гучыць так: «Андрэй Зыгмантовіч па сямейных абставінах з'ехаў у Мінск».

Пасля 19 гульняў у чэмпіянаце першай лігі «Рух» мае ў актыве 35 балаў і займае пятае месца.

# Андрэй Ягораў: Расія паступова зацягвае пятлю на шыі Беларусі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Тэма інтэграцыі Беларусі і Расіі абмяркоўваецца не першы год, але апублікаваныя 16 верасня выданнем «Коммерсантъ» планы, па сутнасці, эканамічнага паглынання нашай краіны выклікалі моцны рэзананс. Наколькі насамрэч сур'ёзная пагроза аб'яднання з Расіяй і што ў гэтай сітуацыі можа зрабіць грамадства, «Новаму Часу» распавёў дырэктар Цэнтра еўрапейскай трансфармацыі Андрэй Ягораў.**



***— Дваццаць гадоў беларусы чуюць пра інтэграцыю з Расіяй. Наколькі сур'ёзна тое, што цяпер адбываецца ў адносінах паміж дзвюма краінамі?***

— Адносіны Беларусі і Расіі заўсёды былі супярэчлівымі. Пасля распаду Савецкага Саюза яны грунтаваліся на схеме сімвалічнай лаяльнасці Беларусі геапалітычным інтарэсам Расіі. Калі Пуцін узяў неаімперскі курс, для Расіі гэтая лаяльнасць на постсавецкай прасторы была надзвычай важная. І Беларусь гандлявала сімвалічнымі акцыямі свайго суверэнітэту, нічога ў рэальнасці не абменьваючы, але атрымліваючы эканамічныя прэферэнцыі. Гэта не толькі перапрадаж нафты альбо зніжаная цана на газ, але і доступ да вялікага расійскага рынку (каля 50 адсоткаў нашага экспарту — гэта экспарт у Расію). Гэтая схема прывяла да моцнай эканамічнай залежнасці Беларусі. І адносіны складаліся такім чынам, што Беларусь хацела ўсё больш прэферэнцый, а Расія — большай лаяльнасці і інтэграцыі, якой Беларусь не можа ёй даць.

Яшчэ ў 2015 годзе я пісаў, што Беларусь будзе наступнай пасля Украіны, і цяпер, магчыма, пачынаецца атака Расіі на Беларусь. Ёсць некалькі сцэнараў, якія мог бы выкарыстаць Крэмль. Канешне, гэта можа быць вайсковы сцэнар. Хутчэй за ўсё, планы, падобныя да ўкраінскага, ёсць і пра Беларусь. Але іх выкарыстанне — гэта вялікі кошт для Расіі, якая знаходзіцца пад санкцыямі. Таму быў абраны другі сцэнар — эканамічнае ўдушэнне. Трэба разумець, што гэта — не аднаразовае дзеянне. Расія паступова зацягвае пятлю на шыі Беларусі, і гэта доўгатэрміновая стратэгія.

Цяпер ідзе гаворка пра рэалізацыю палажэнняў дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. І на першы план выходзяць палітычныя ўмовы ўзнаўлення эканамічнай падтрымкі нашай краіны. Атрымліваецца, што тыя рэчы, якія не працавалі 20 гадоў, кшталту дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, сталіся «ружжом на сцяне», якое вісела, і якому надышоў час стрэліць. Яна прадугледжвае стварэнне дзяржавы з агульнымі органамі кіравання, парламентам, вельмі шчыльнай эканамічнай інтэграцыяй, агульным грамадзянствам, мытнай, банкаўскай сістэмамі і гэтак далей. І калі ўявіць, што гэтая дамова будзе выкананая ў поўным аб'ёме, то суверэнітэт Беларусі знікне. Мы захаваемся на ўзроўні нейкай аўтаномнай акругі ў межах федэрацыі. Ніякай роўнасці не будзе.

І нават калі пакуль гаворка ідзе толькі пра эканоміку, гэта крок да выканання палажэнняў дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, якая ў перспектыве вядзе да знікнення беларускага суверэнітэту.

***— Якія высновы можна зрабіць з інфармацыі, апублікаванай расійскім выданнем?***

— Нават калі думаць, што гэта праўда (хаця я не ўпэўнены, але ж мы не ведаем), то гаворка ідзе пра адаптацыю расійскага заканадаўства ў Беларусі. Напрыклад, увядзенне адзінага Падатковага кодэксу. Узнікае пытанне: гэта расіяне пазычаць нашу сістэму падаткаабкладання, ці мы — расійскую? Мне здаецца, што першы варыянт неверагодны. Ці агульны Грамадзянскі кодэкс — гэта татальнае змяненне прававога ландшафту Беларусі.

***— А не можа быць варыянту распрацоўкі новага агульнага заканадаўства?***

— Я думаю, гэта як скрыжаваць вужа і вожыка. З моманту стварэння дамовы аб Саюзнай дзяржаве ўвесь час гаворыць пра ўніфікацыю заканадаўства, але яна немагчымая, таму што ў нас розныя эканамічныя мадэлі.

Паводле «Коммерсанта», пакуль не прадугледжваецца ўвядзенне адзінай валюты, але прадугледжваецца ўзгадненне правілаў банкаўскага рэгулявання і крэдытнай палітыкі — і гэта крок на шляху да адзінай валюты. Падпісаныя дакументы дадуць магчымасць Расіі патрабаваць ад Беларусі выканання канкрэтных палажэнняў, якія раней яна не выконвала. У стратэгіі доўгатэрміновага ўдушэння Беларусь будуць прымушаць не толькі падпісаць дарожныя мапы, але і ісці па іх. А гэта, зноў жа, шлях да Саюзнай дзяржавы. Да 2022 года ці, можа, трошкі пазней мы пакрокава будзем губляць свой суверэнітэт і дойдзем да стварэння агульных палітычных інстытутаў. І, як сёння Беларусі амаль немагчыма выйсці з Еўразійскага эканамічнага саюза, гэтак жа цяжка будзе сысці ад падпісаных дамоваў.

***— Навошта ўвогуле Расіі інтэграцыя з Беларуссю, калі ёй гэта эканамічна не выгадна?***

— Ёй гэта трэба з пункту гледжання місійных неаімперскіх установак кіруючай эліты і, у прыватнасці, Пуціна. Яны жадаюць вялікай Расіі з кантролем усёй постсавецкай прасторы. Так, гэта пацягне эканамічныя страты, але цяпер логіка расійскай эліты не грунтуецца на рацыянальных падставах, і сімвалічна-палітычныя рэчы маюць значна большае значэнне. Прагрэсты ў Маскве сведчаць, што палітычнае становішча ў краіне неспакойнае, таму трэба кампенсаваць унутраныя страты знешнімі поспехамі. Калі Крым адыграў добрую ролю ў падтрыманні рэжыму Пуціна, прыкладна такіх жа настрояў могуць чакаць ад далучэння Беларусі.

Ёсць яшчэ спекулятыўная рэч, звязаная з тым, што ў 2024 годзе Пуцін мусіць нейкім чынам працягнуць свае паўнамоцтвы. І адзін з варыянтаў гэтага — прыняцце Канстытуцыйнага акта аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, у якой Пуцін становіцца прэзідэнтам, такім чынам пазбягаючы неабходнасці змянення расійскай Канстытуцыі. Гэта адзін з варыянтаў, якія цяпер абмяркоўваюцца, і, у залежнасці ад хуткасці, з якой Беларусь будзе інтэгравацца, ён можа быць рэалізаваны.

***— Вы ўзгадалі пра чаканыя настроі расіян у выніку меркаванага аншлюсу. А што можна сказаць пра настроі беларусаў?***

— Пераважная большасць беларусаў — ад 60 да 75% (у залежнасці ад таго, як задаваць пытанне) — стаіць на пранезалежніцкіх пазіцыях. Яны не жадаюць інтэгравацца ні з Расіяй, ні з Еўропай, а хочуць жыць у самастойнай краіне. Тых, хто хоча інтэгравацца ў адзіную дзяржаву з Расіяй, паводле сацыялагічных апытанняў, 10–12%. Іншая справа, прарасійская накіраванасць беларусаў звязаная з тым, што мы добра ставімся да суседзяў. Але пры гэтым беларусы — незалежнікі. З іх даволі значная колькасць тых, хто гатовы актыўна бараніць Беларусь. Паводле апытанняў, 15–20% гатовыя выходзіць на абарону краіны ў выпадку ўзброенага канфлікту — гэта дастаткова шмат. І гэта не дае магчымасці выкарыстоўваць у Беларусі «зялёных чалавечкаў», бо беларусы гатовыя бараніць сваю незалежнасць. А Расія разумее, што вайна — тое, на што яна зараз не можа пайсці, бо гэта значна даражэй, чым эканамічнае ўдушэнне.

Але цікава тое, што гэтых 75% людзей, якія стаяць на пранезалежніцкіх пазіцыях, не бачна, яны не непакояцца з нагоды інтэграцыі. Гэта людзі з бізнесу, супрацоўнікі IT-кампаній, звычайныя жыхары беларускіх гарадоў. Я праводзіў невялічкі эксперымент і пытаўся ў людзей, як яны ставяцца да магчымага аб'яднання. І яны вельмі хутка і ясна пачыналі выпрацоўваць аргументы на карысць незалежнасці.

Цяпер важна даць гэтым настроям праявіцца, паказаць, што грамадства не жадае ні эканамічнай, ні палітычнай інтэграцыі. Калі вывесці гэтыя настроі на паверхню, гэта можа быць значным аргументам, у тым ліку для беларускіх элітаў, каб не падпісваць тыя дамовы. Для іх гэта можа стаць пэўным алібі. Бо я не думаю, што беларускія эліты жадаюць інтэграцыі, для іх гэта вымушаны крок. Таму добра, што зараз з'яўляюцца розныя кампаніі і петыцыі ў падтрымку незалежнасці Беларусі, якія дазваляюць народным настроям выйсці на паверхню.

***— Але ж цягам існавання незалежнай Беларусі эліты толькі і робяць, што наблюдаюць гэтую інтэграцыю, не надта прыслухоўваючыся да меркавання народа. Што можна зрабіць цяпер, каб яго пачулі? Петыцыі — гэта добра, але ж яны не маюць рэальнай моцы...***

— Беларускія эліты не імкнуцца да інтэграцыі, яны проста хочуць выкарыстоўваць Расію для ўтрымання ўласнай улады. Але гэтая мадэль прывяла да таго, што яны самі сябе загналі ў пастку, дзе Расія можа прымяняць стратэгію эканамічнага ўдушэння Беларусі і прымусу да інтэграцыі.

З іншага боку, многія апелююць да таго, што Лукашэнка зможа адбіцца, і многія дзяржаўныя асобы заяўлялі, што няма нічога страшнага ў падпісанні гэтых дамоваў. Але ў мяне няма ніякіх падставаў верыць у тое, што ў іх атрымаецца — без дзеянняў грамадства — захаваць суверэнітэт.

Пытанне суверэнітэту важнае для кожнага грамадзяніна, і перадаваць яго вырашэнне не абраным намі элітам ці Лукашэнку, які гвалтоўна ўтрымлівае ўладу, няправільна. Гэта мая краіна, і я, як грамадзянін, мушу зрабіць нейкія дзеянні, каб яе суверэнітэт быў захаваны. Самі па сабе петыцыі не вырашаць праблему. Але зараз такія маленечкія дзеянні па распаўсюдзе інфармацыі, далучэнне да кампаній па абароне незалежнасці падвышаюць градус грамадскай заклапочанасці. І ёсць шанец, што не толькі беларускамоўныя, апазіцыянеры, дэмакраты — тыя, каго пытанне незалежнасці хвалюе традыцыйна, — аднак і ўсё пранезалежніцкае, але маўклівае грамадства таксама падыме свой голас. І ў гэтым выпадку праігнараваць яго будзе немагчыма. Як было з дэкрэтам №3 у 2017 годзе, калі спантанныя акцыі пратэсту закранулі масы людзей па ўсёй Беларусі. Тое ж магчыма і ў цяперашняй сітуацыі, калі людзі адчуюць пагрозу. А пагроза ёсць.




Фота www.belprauda.org

**Пытанне суверэнітэту важнае для кожнага грамадзяніна, і перадаваць яго вырашэнне не абраным намі элітам ці Лукашэнку, які гвалтоўна ўтрымлівае ўладу, няправільна. Гэта мая краіна, і я, як грамадзянін, мушу зрабіць нейкія дзеянні, каб яе суверэнітэт быў захаваны**

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

6 – 7 ЯК ЗАРАБІЦЬ НА ТУРЫСТАХ?



8 СТОМЛЕНЫЯ МІРАМ...
«НОВЫ ЧАС» СКЛАЎ ПАДБОРКУ МЕСЦАЎ ДЛЯ НЕЗВЫЧАЙНЫХ ЭКСКУРСІЯЎ

# Якія мы ў вачах замежнікаў?

Павел КІРЫЛАЎ

**Сусветны дзень турызму адзначаецца 27 верасня. Гэта — свята для многіх, бо з кожным годам мы больш бываем у турыстычных выправах, як і нашу краіну ўсё часцей наведваюць замежнікі. Пацвярджае тое і статыстыка. «Новы Час» вывучыў самыя папулярныя вандроўныя напрамкі сярод беларусаў, а таксама даведаўся, хто з замежнікаў прыязджае ў Беларусь і як яе турыстычны патэнцыял прэзентуецца ў свеце.**




Фота www.citytourminsk.by

Летась толькі ўякасці арганізаваных турыстаў і экскурсантаў падарожнічалі 850 тысяч нашых грамадзян. У 2017 годзе, паводле дадзеных Белстату, па-за Беларуссю адпачылі 730 тысяч чалавек. Пяцёрка самых наведвальных беларусамі краінаў не змянілася: Егіпет, Турцыя, Украіна, Балгарыя ды Расія. Прычым першая тройка ў лідарах — з заўважным адрывам. Так, у Расіі і Балгарыі беларусаў адпачывала ў 5 разоў меней, чым у Егіпце, і ў 3 разы радзей, чым ва Украіне. Гэта пры тым, што Расія акупавала ўкраінскі курортны Крым. Далей у дзясятцы папулярных у беларускіх адпачывальнікаў-падарожнікаў краінаў ідуць Іспанія, Польшча, Грэцыя, Грузія, якая пацясніла з пазамінулагодняга Топ–10 Чэхію, ды Чарнагорыя.

## Плён «бязвізу»

Замежных турыстаў у нас таксама паболела: 365 тысяч летась супраць 280 тысяч пазалетась і 120 тысяч у 2012 годзе. 57% ад усіх замежных турыстаў у 2018 годзе склалі расіяне. На травеньскія святы, паводле тамтэйшых апытанняў, Беларусь — наогул для іх турыстычны напрамак №1. Зрэшты, мы і самі можам зрабіць такую выснову па машынах з расійскімі нумарамі, якія часцяком стаяць на ходніках.

Вельмі любяць расіяне беларускія санаторыі. Сярод замежнікаў іх там больш за 80%. Дарэчы, 150 тысяч жыхароў іншых краінаў летась прыязджалі ў Беларусь, апроч санаторыяў, палекавацца і навесці прыгажосць у нашых шпіталях ды медцэнтрах — бо якасна і нядорага. Гаворка пра самыя розныя медычныя маніпуляцыі: ад пламбавання зубоў і аж да змены полу. Напрыклад, у Мінскай абласной клінічнай бальніцы медтурысты пакідаюць у сярэднім пад 2000 долараў.

Калі ж вярнуцца да белстатаўскай гасцявой статыстыкі, то яшчэ ў дзясятцы самых частых турыстаў фігуруюць літоўцы, палякі, латышы, украінцы, немцы, кітайцы, іспанцы, якія прыйшлі ў параўнанні з 2017 годам на змену ізраільцянам, эстонцам ды брытанцам. У сярэднім замежнікі гасцявалі ў нас 5 дзён. У 2017-м было на дзень меней.

Дарэчы, турысты ўсё болей вандруюць ва ўсім свеце. Так што мы, як кажуць, у трэндзе. Колькасць міжнародных паездак, паводле Сусветнай турысцкай арганізацыі, у 2018 годзе вырасла на 6% і дасягнула рэкордных 1,4 мільярда. Згодна з прагнозамі, у 2019 годзе будзе пастаўлены новы рэкорд: гэтаму паспрыяюць стабільныя цэны на паліва і даступнасць авіяперавозак.

Павелічэнне турыстычнай плыні да нас — перадусім вынік «бязвізу». За 7 месяцаў гэтага года ў Беларусь, скарыстаўшыся бязвізавым рэжымам, прыехалі амаль 175 тысяч турыстаў. Рост у параўнанні з такім самым перыядам мінулага года — больш як на 60%. І гэтая тэндэнцыя павінна працягнуцца, таму што 10 лістапада ў сілу ўступіць указ №300, прыняты ў жніўні, аб аб'яднанні бязвізавых турыстычных зонаў Брэстчыны і Гродзеншчыны. Бязвізавую тэрыторыю «Брэст — Гродна» цяпер складаюць гэтыя абласныя цэнтры, а таксама Брэсцкі, Жабінкаўскі, Камянецкі, Пружанскі, Гродзенскі, Бераставіцкі, Ваўкавыскі, Воранаўскі, Лідскі, Свіслацкі і Шчучынскі раёны. Часова знаходзіцца тут змогуць да 15 сутак жыхары 73 краінаў. Цяпер тэрмін знаходжання — 10 сутак. Натуральна, чым даўжэйшае перабыванне — тым болей грошай замежнікі пакідаюць у Беларусі.

Бліжэйшымі гадамі можна чакаць новых захадаў па прыцягненні турыстаў. У хуткім часе будзе прынята Стратэгія развіцця турызму да 2035 года. Пры яе складанні вывучаць дасягненні канкурэнтаў, якімі лічацца ўсе нашы суседзі па рэгіёне. Дапаможа і Сусветная турысцкая арганізацыя. Дарэчы, па словах віцэ-прэм'ера Ігара Петрышэнкі, цяпер наш турыстычны патэнцыял не выкарыстоўваецца нават на чвэрць.

Між тым, афіцыйныя планы датычна турызму ўжо акрэсленыя ў Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на перыяд да 2030 года. Мэта пастаўленая амбіцыйная — «стварэнне высокаэфектыўнага і канкурэнтаздольнага турыстычнага комплексу, уваходжанне Беларусі ў лік 50 вядучых краінаў па ўзроўні развіцця турызму». Долю экспарту турыстычных паслуг у агульным аб'ёме экспарту паслуг плануецца павялічыць з 2,7% у 2015 годзе да 3,5% у 2030-м.

Між тым, Беларусь пакрысе ўжо ўздымаецца ў адмысловых рэйтынгах. Рэйтынг «80 лепшых краінаў на 2019 год» ад амерыканскага выдання «U.S. News & World Report» цікавы тым, што складзены на падставе ўражанняў больш як 20 тысяч рэспандэнтаў з розных кантынентаў. У тым ліку ацэньвалася і турыстычная прывабнасць краінаў: маляўнічасць краявідаў, гісторыка-культурная спадчына, і гэтак далей. Беларусь паставілі на 73-е месца, сярод суседзяў вышэй за нас Расія (24-е месца), ды Польшча (33-е). У першай тройцы: Швейцарыя, Японія ды Канада.

## Гід па Беларусі: ад Лукашэнкі да НЛА

Увогуле ж пераважная большасць абывацеляў па ўсім свеце мала абазнаныя пра краіны, якія не з'яўляюцца іх суседзямі. Для прыкладу, ці шмат вы ведаеце нават пра такую вялікую і вядомую дзяржаву, як Бразілія? Пра яе выбітнасці, самыя прыгожыя гарады, пра тое, што робіцца ў палітыцы? Дасведчанасць пра Беларусь — не выключэнне. Натуральна, патэнцыйныя замежныя турысты першую інфармацыю пра нашу краіну шукаюць у інтэрнэце.

«Новы Час» паглядзеў, як Беларусь падаецца на сайце самага папулярнага выдавецтва-гіда ў свеце — Lonely Planet. Вось што пішацца пра нас і нашу краіну ад Топ архітэктурных аб'ектаў да ацэнак палітычнага ладу.

Перадусім адзначым, што пры канцы мінулага года Lonely Planet уключыла Беларусь у дзясятку краінаў, якія варта наведаць у 2019 годзе. Разам былі названыя Шры-Ланка, Германія, Зімбабвэ, Панама, Кыргызстан, Іарданія, Інданезія, Сан-Тамэ і Прынсіпі ды Беліз. Беларусь рэкамендаваная турыстам за візавыя палёгкі, мінулыя нядаўна Еўрапейскія гульні, добрыя кафэ-бары са стрыт-артам у сталіцы і дзякуючы мясцовым жыхарам, якія бавяцца на вулічных вечарынах паблізу ратушы, нягледзячы на зацісканне іншадумства ў краіне.

Пра палітыку пішацца дастаткова падрабязна. Пра падатак на беспрацоўных і рэпрэсіі супраць тых, хто пратэставаў супраць гэтага. Пра мізэрныя пратэсты незадаволеных вынікамі прэзідэнцкіх выбараў–2015, пра двух прадстаўнікоў апазіцыі ў парламенце, чаго не было шмат гадоў і трактуецца як элемент «адлігі». Пра пікіроўкі Лукашэнкі з Пуціным і перасцярогі, што Масква анексуе Беларусь, як Крым, пра пацяпленне стасункаў з Захадам, праявай якога стаў у тым ліку «бязвіз». Ілюстрацыяй вольніцы называецца контркультурнае жыццё на мінскай вуліцы Кастрычніцкая. І гэта, маўляў, адно з месцаў, дзе беларусы ціхенька гавораць пра палітыку, часцяком на беларускай мове, якую ўлады традыцыйна лічаць небяспечнай праявай нацыяналізму.

Мінск ужо звыкла-шаблонна апісваюць як чысты горад, цэнтр якога перабудаваны на густ Сталіна (маецца на ўвазе сталінскі ампір). Як еўрапеізаваныя куточкі адзначаюцца заходнія Брэст і Гродна. Каб пазнаёміцца з мінуўшчынай, раяць выправіцца ў Нясвіж. Прычым па-англійску назва горада, як і іншых мясцінаў, падаецца ў беларускамоўнай транскрыпцыі — Nyasvizh. Таксама ў Топе славутасцяў ад Lonely Planet — Мірскі замак, Брэсцкая крэпасць, гомельскі палац Румянцавых і Паскевічаў, Белавежская пушча з зубрамі, Музей Вялікай Айчыннай вайны, музей чыгуначнай тэхнікі ў Брэсце. Нацыянальная бібліятэка? Так, згадваецца, але не ў Топ. Яна называецца мадэрнісцкім цудам — спрэчным, але досыць відовішчным, падобным да НЛА...

Таксама даюцца этыкетныя парады: дастаткова моцна пацiскаць руку кожнаму мужчыну, калі ўваходзіце ў пакой, але не рабіць гэтага праз парог і ў пальчатках; здымаць абутак пры ўваходзе ў дом і прыносіць падарунак у госці, дарыць букеты з няцотнай колькасцю кветак; падчас застолляў абавязкова сказаць свой тост пад алкагольны напой. Турыстаў папярэджваюць пра распаўсюджанасць гамафобіі ў Беларусі, у прыватнасці, распавядаюць пра рэпрэсіўныя рэйды сілавікоў па барах супраць геяў.

Рэзюмэ ад Lonely Planet: «Магчыма, гэта апошняя дыктатура Еўропы, але не еўрапейская версія Паўночнай Карэі».

# Як зарабіць на турыстах?

Мірaслаў ГАЖЭЦКІ

**Турызм бывае ўязным (замежнікі — да нас), выязным (мы — за мяжу) і ўнутраным («Беларусь — для беларусаў!»). Рост колькасці падарожнікаў назіраецца ва ўсіх сегментах турыстычнага рынку. Дык чым жа не нагода працаваць і зарабляць у гэтай галіне? Тым больш, што гэта занятак, на які здатныя многія, абы было б жаданне: можна адкрыць турфірму, стаць экскурсаводам ці здаваць турыстам жыллё праз папулярныя арэндныя сэрвісы. Разбіраемся, наколькі складаная гэта справа, на самых даступных занятках у галіне турызму — экскурсаводстве і арэндзе жылля.**

Што да бізнесу па размяшчэнні турыстаў, то адкрыць класічны прыстойны гатэль — справа дарагая і сумнеўная. Турызм у нас развіваецца, але пра нешта падобнае да буму казаць пакуль не выпадае. Нібыта і гатэляў у нас не надта шмат, аднак, паводле дадзеных Белстату, летась узровень загрузкі беларускіх гасцініц склаў усяго толькі 31%. Па рэгіёнах сітуацыя такая: Мінск — 41%, Брэстчына — 30%, Гомельшчына і Гродзеншчына — па 28%, Міншчына — 26%, Віцебская і Магілёўская вобласці — па 24%. Больш перспектыўна адкрыць хостэл: дзякуючы меншым выдаткам на ўтрыманне і коштам за начаванне можна мець добры ўзровень запаўняльнасці.

### Сам сабе гатэльер

Кагосьці можа натхніць паспяховая бізнес-гісторыя Ксеніі Курусь, дырэктаркі сеткі хостэлаў у Мінску. Пачала яна сваю справу ў 19 гадоў, калі была студэнткай. А зарабляць стала сама з падлеткавага ўзросту. Прадавала ўласнаручна зробленыя скульптуркі з гліны, працавала ў «Зелянбудзе», затым былі «Макдональдс» і турфірма. У выніку яна ажыццявіла мару — стварыла сетку моладзевых хостэлаў на еўрапейскі ўзор. Грошы знайшла праз стартап-конкурс. Ён быў IT-скіраванасці, але гэта дзяўчыну не спужала. І ў выніку яна знайшла інвестара ў асобе вядомага бізнесоўца (такіх называюць бізнес-анёламі) Аляксандра Кныровіча, які пазычыў ёй больш паўсотні тысяч долараў.



У выніку ў 2012 годзе ў сталічным мікрараёне Чыжоўка ў прыватным доме запрацаваў першы хостэл «Traveler». Пазней хостэл размясціўся ў жылым доме па вуліцы Танка, але мясцовым жыхарам такое суседства не спадабалася — і праз скаргі яны прымусілі яго пераехаць.

Хостэлы Ксеніі цяпер у цэнтры Мінска — напрыклад, у Траецкім прадмесці. Апошні ўжо ў цэлай сетцы з'явіўся зусім нядаўна ў адмыслова пад яго адрэстаўраваным закінутым будынку XIX стагоддзя, з дапамогай вядомых дызайнераў і архітэктараў. І гэта ўжо не проста пакоі для начавання з двух'яруснымі драўлянымі ложкамі: тут ладзяцца розныя крэатыўныя мерапрыемствы і прапануюцца гасцям туры — ад паездкі ў Нясвіж да прагулянкі па барах. Кошты: 20 рублёў за месца ў агульным нумары, 55 рублёў — за пакой на дзве асобы. Ёсць сямейны нумар і жаночы.

Калі не пашчасціць знайсці інвестара і буйную суму ад яго, можна здаваць уласнае жытло і стаць індывідуальным гатэльерам. Здача ў арэнду апартаментаў на бюракратычнай мове называецца індывідуальнымі сродкамі размяшчэння. «Новы Час» пагутарыў з адным такім прадпрымальнікам Віктарам, які ўжо больш за пяць гадоў здае некалькі кватэраў.

Віктар кажа, што цяпер канкурэнцыя значна ўзрасла: «Раней адна кватэра магла прыносіць да тысячы долараў на месяц. Выдаткі, апрача падаткаў, нязначныя — мяняй туалетную паперу ды шампуні, умоўна кажучы. Я нават нейкі час наймаў адміністратара з прыбіральшчыцай. Натуральна, перыяды цягам года бываюць розныя па прыбытковасці. З лістапада па красавік — так сабе. Здаю ў тым ліку праз вядомыя сэрвісы Booking ды Airbnb, але ёсць база пастаянных кліентаў. Палова гасцей — з Расіі».

Звычайна гаспадары ўсё, звязанае з арэндай апартаментаў, робяць самі: вядуць перапіску з кліентамі пры патрэбе (для кантактаў з замежнікамі спатрэбіцца веданне моваў), сустракаюць іх (атрымаць ключы назад можна завочна — госці могуць пакінуць іх у паштовай скрыньцы), прыбіраюць, мыюць бялізну і мяняюць побытавыя расходнікі. Калі здаванне кватэры ў арэнду будзе ў вас дадатковым заробкам, то варта ці пашукаць памочніка хаця б сярод сваякоў, ці займацца гэтым, маючы працу з гнуткім графікам, каб знайсці гадзіну на той самы заезд гасцей.

Калі вы не маеце пустога жытла, таксама ёсць варыянт: перадаваць чужое, узятае ў доўгатэрміновую арэнду. Мы нават знайшлі прапанову набыць такі гатовы бізнес у Мінску. Прапанова коштам за 80 тысяч рублёў уяўляе з сябе паўтара дзясятка апартаментаў. У супрацоўніках — тры пакаёўкі і адзін адміністратар. То-бок, вы будзе гатэльерам-босам. У кошт уваходзяць: закладная сума за арэндаваныя кватэры, пасцельная бялізна, ручнікі, падушкі, коўдры, посуд,

# «Фонд спакою» турыстаў



Павел КІРЫЛАЎ

**Усе мы бываем турыстамі. А падарожжы — гэта не толькі задавальненне ды новыя ўражанні, але і грашова-арганізацыйныя турботы. У хуткім часе будзе прыняты новы закон «Аб турызме», і асноўныя змены ў ім якраз датычаць розных непрыемнасцяў, якія могуць быць звязаныя з адпачынкам. Змены на добрае для турыстаў: грошы і нервы будуць цалейшымі.**

Улетку з ініцыятывы Міністэрства спорту і турызму прайшло грамадскае абмеркаванне дакумента, які, паводле гэтага ведамства, «накіраваны на ўдасканаленне механізмаў вядзення турыстычнай дзейнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама абароны правоў і законных інтарэсаў спажыўцоў турыстычных паслуг». Праз некаторы час пасля разгляду ў Савеце міністраў закон «Аб турызме» накіруюць у Палату прадстаўнікоў. Магчыма, з наступнага лета ён уступіць у сілу. Але гэта не дакладна, бо, бадай, самае істотная навацыя ў законе — адначасова і самая дыскутаваная, а таксама дастаткова складаная для ажыццяўлення.

Гаворка вядзецца пра абавязак турыстычных фірмаў мець фінансавыя гарантыі дзеля абароненасці кліентаў ад раптоўных збанкрутаванняў ды розных неспадзяванак ці ў час, калі мы рыхтуемся да арганізаваных вандровак, ці ўжо калі мы падарожнічаем-адпачываем у межах тураў. Такая практыка дзейнічае шмат у якіх краінах у розных фарматах. У праекце нашага закона «Аб турызме» прапісаныя тры магчымыя варыянты, з якіх турфірмам можна будзе выбраць той, што найбольш пасуе: банкаўская гарантыя, страхаванне грамадзянскай адказнасці або ўдзел у фармаванні калектыўнага фонду персанальнай адказнасці тураператараў. Прычым, гэта будзе абавязковай умовай для вядзення бізнесу на турыстычным рынку.

У Міністэрстве спорту і турызму лічаць, што самым папулярным варыянтам будзе трэці — фондавы, як самы просты. Прынамсі, бліжэйшым часам. Бо банкаўская гарантыя — рэдкая справа ўвогуле ў беларускім бізнесе, як і страхаванне грамадзянскай адказнасці тураператара. Але гэтыя механізмы адмыслова структуры маюць намер прапрацаваць, улічыўшы ўсе магчымыя нюансы.

**Калі не пашчасціць знайсці інвестара і буйную суму ад яго, можна здаваць уласнае жытло і стаць індывідуальным гатэльерам. Здача ў арэнду апартаментаў на бюракратычнай мове называецца індывідуальнымі сродкамі размяшчэння**



фены, прасы, сайт і суполкі ў сацсетках, база кліентаў.

Выдаткі на месяц — 20 тысяч рублёў (арэнда і камунальныя плацяжы, заробак персаналу, падаткі, рэклама, расходы з «рознага»). Прыбытак, які прадавец абяцае пацвердзіць дакументальна, складае пры сярэднім чэку на 75 BYN каля 7 тысяч. Можаце самі пралічыць, колькі спатрэбіцца абаротных фінансаў вам, і якім можа быць прыбытак, калі вы пачняце працаваць па такой схеме, скажам, з трыма кватэрамі і ў фармаце «сам сабе персанал».

### Гідная справа

На шляху да таго, каб стаць экскурсаводам, практычна няма меркантыльнага бар'еру — патрэбныя толькі вашы гістарычныя і краязнаўчыя веды ды аратарская камунікабельнасць, пажадана шматмоўная. Цяпер у Беларусі працуюць каля 900 экскурсаводаў і больш за 200 гідаў-перакладчыкаў. Дарэчы, тры чвэрці з іх — жанчыны. Звычайна экскурсаводы і гіды-перакладчыкі афармляюць ІП, працуюць па дамовах з турыстычнымі кампаніямі і толькі адзінкі — у штаце турфірмаў.

У новай рэдакцыі закона «Аб турызме» забараняецца экскурсійнае абслугоўванне без праходжання прафесійнай атэстацыі, якая пацвярджае кваліфікацыю экскурсавода і гіда-перакладчыка. Адбываецца атэстацыя ў форме экзамену, які складаецца з двух этапаў — камп'ютарнага тэставання і вуснага сумоўя. На камп'ютарным тэставанні трэба адказаць на 60% пытанняў на агульную эрудыцыю, веды па гісторыі, геаграфіі і архітэктуры. Вусны іспыт — гэта праверка, наколькі прэтэндэнт валодае інфармацыяй па маршруце, якім ён збіраецца вадзіць турыстаў. Трэба ўмець распавядаць цікава і нават артыстычна, трымаць увагу аўдыторыі.

Пры паспяховым праходжанні гэтага двухступеневага іспыту выдаюцца пасведчанне аб атэстацыі, адмысловы бэдж і пералік тэмаў экскурсіяў, па якіх пройдзеная атэстацыя. Атэставальная ўстанова — Нацыянальнае агенцтва па турызме. Тут кажуць, што 30% ахвочых падаца ў экскурсаводы заваліваюць атэстацыю.

Атэстацыя патрабуецца і сёння, але наўпроставай забароны з санкцыямі за безатэстацыйнае экскурсаводства няма. І ў выніку дзяржава занепакоеная тым, што асобы, якія не маюць атэстацыйнага пасведчання, ладзяць экскурсіі для турыстычных групаў, у тым ліку замежных, «у вольным стылі і фармуюць такім чынам няслушнае ўяўленне аб Рэспубліцы Беларусь». Асаблівую незадаволенасць і Нацагенцтва па турызме, і беларускіх экскурсаводаў выклікаюць тыя, хто суправаджае ў якасці гідаў замежныя тургрупы. Па-першае, яны адбіраюць хлеб у нашых знаўцаў-адмыслоўцаў ды займаюцца незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасцю. А па-другое, «падрыўна» распавядаюць пра беларускія землі як пра расійскія, літоўскія, польскія.

У Нацыянальным агенцтве па турызме для паспяховага атрымання атэстацыі раяць закончыць адмысловыя курсы, бо там выкладаецца і метадалогія для экскурсаводаў. Такія курсы, напрыклад, пры агенцтве, доўжацца 5 месяцаў (па 2–3 разы на тыдзень па вечарах) і каштуюць 900 рублёў. Дарэчы, цяпер якраз ідзе набор. У праграму курсаў уваходзяць лекцыі і практычныя заняткі з выкладчыкамі ВНУ, спецыялістамі з турыстычнай індустрыі, работа з тэкстамі маршрутаў і тэхналагічнымі мапамі. Праз пяць гадоў атэстацыю трэба працягнуць — прайсці ўжо абавязковыя курсы павышэння кваліфікацыі.

Пасля таго, як новая рэдакцыя закона «Аб турызме» набудзе моц, нелегальных экскурсаводаў пачнуць выяўляць падчас спецыяльных рэйдаў і штрафаваць. І за адсутнасць атэстацыі, і за працу па тэматычным кірунку, па якой яны не атэстоўваліся. З гэтым момантам некаторыя экскурсаводы не згодныя: лічаць, што атэставаныя прафесіяналы распрацуюць новы маршрут ці тэму і без узгаднення.

### Па чым форс-мажор?

Новаўвядзенне фінансавых гарантыяў выканання абавязальніцтваў па турдамове — вынік мінулагодняй скандальнай сітуацыі, якая склалася з адпачынкамі некалькіх сотняў беларусаў. Тады збанкрутавалі некалькі расійскіх тураператараў, і, адпаведна, яны не здолелі аказаць паслугі ў тым ліку беларускім грамадзянам, якія набылі туры праз мясцовых турагентаў ці прадстаўніцтвы расійскіх фірмаў. Многія пацярпелыя не змаглі вярнуць заплачаныя за ануляваныя туры грошы. Перадусім гэта тычыцца расійскага турыстычнага апаратара «Наталі Турс», які меў афіляваную структуру з аднайменнай назвай у Беларусі.

Вось як прааналізавалі сітуацыю ў профільным ведамстве. З 2011 года было скасаванае ліцэнзаванне шэрагу відаў эканамічнай дзейнасці, у тым ліку турыстычнай. Гэта, з аднаго боку, «паспрыяла станаўленню асяроддзя натуральнай канкурэнцыі ў галіне турызму і з'яўленню новых суб'ектаў турыстычнай дзейнасці». Але «пасля адмены ліцэнзавання не было ўведзена альтэрнатыўных механізмаў, якія б спрыялі абароне рынку турыстычных паслугаў, правоў і законных інтарэсаў суб'ектаў і ўдзельнікаў турыстычнай дзейнасці». З'яўленне новых гульцоў пэўным чынам спраўкавала такую тэндэнцыю, як зніжэнне ўзроўню якасці паслуг і павелічэнне колькасці скаргаў з боку турыстаў на махлярскія схемы і падман.

Дарэчы, страты беларускіх грамадзян па нашумелай справе «Наталі Турс» ацэньваюцца амаль у 700 тысяч еўра! Прыкладна такога аб'ёму, каля мільёна еўра, можа быць і меркаваны дзяржаўна-прыватны гарантыйны фонд. Тураператараў абавяжуць пералічаць у яго як мінімум некалькі дзясятых працэнта ад гадавога абароту, калі яны абяруць такі механізм страхавання рызыкаў. Калі канкрэтна, то памеры ўнёскаў будуць устанаўліваць асацыяцыі суб'ектаў турыстычнай індустрыі, але не ніжэй за 0,2% ад выручкі па рэалізаваных турах за папярэдні год, калі гаворка вядзецца пра ўязны турызм, і не менш за 1%, калі фірма займаецца выязным турызмам. Максімальны ўнёсак можа быць 7% пры эканамічным абгрунтаванні і, натуральна, згодзе чальцоў прафесійнай турасацыяцыі.

Важны момант: «Фінансавае забеспячэнне грамадзянскай адказнасці тураператара не патрабуецца пры ажыццяўленні суб'ектамі турыстычнай дзейнасці экскурсійнага абслугоўвання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь на перыяд, які не перавышае 24 гадзіны запар, паколькі дадзены від дзейнасці мае мінімальную рызыку для ўдзельнікаў турыстычнай дзейнасці».

Як мы ўжо адзначылі, мэтавае прызначэнне фонду — кампенсацыя стратаў ад невыканання тураператарам абавязальніцтваў па аказанні турпаслугаў або ў сувязі са спыненнем дзейнасці. Аднак у адмысловым абгрунтаванні па распрацоўцы праекта закона «Аб турызме» чытаем, што сродкі фонду могуць выкарыстоўвацца і для іншых мэтаў. Напрыклад, «на маркетынгавыя мерапрыемствы, скіраваныя на прасоўванне турыстычнага патэнцыялу Рэспублікі Беларусь за мяжой».

### Туры падаражэюць

Тыя з бізнесоўцаў, хто насцярожана ставіцца да ўвядзення інстытуту фінансавых гарантыяў на турыстычным рынку праз



стварэнне такога фонду, кажуць, што механізм яго фармавання і распараджэння пакуль цьмяна прапісаны. Маўляў, памер унёскаў не абгрунтаваны. І перасцерагаюць, што наступствам можа стаць рост коштаў на туры. Натуральна, магчыма і такое развіццё падзей, калі добрасумленныя турфірмы праз фонд будуць вымушаныя несці адказнасць не толькі за эканамічна правальныя, але і махлярскія канторы.

Як альтэрнатыва прапануецца страхаваць турыстычны пакет ад нявыезду і невыканання абавязальніцтваў тураператара. Таксама можна было б браць фіксаваны страхавы збор з такі фонд дапамогі з кожнага туру. А ў выдаткаванні сродкаў фонду на «іншыя мэты» бачаць нават прыхаваны збор з турфірмаў на патрэбы дзяржавы.

Чыноўнікі ад галіны турызму наконт верагоднага падаражання тураў кажуць, што да гэтага вядзе любы варыянт абароны рынку, бо цягне за сабою павелічэнне расходаў для турфірмаў. Зрэшты, для спажыўца лепей дробна пераплаціць, але мець гарантыю, што, калі штосьці здарыцца, то ён атрымае кампенсацыю выдаткаў за сарваны адпачынак.

Дарэчы, фінансавыя гарантыі будуць тычыцца і ўязнога турызму. Хаця выпадкаў, калі нешматлікіх замежных турыстаў скандальна падманулі з адпачынкам у Беларусі, пакуль, дзякуй Богу, не было.

Што да магчымых прэтэнзіяў турыстаў па якасці аказаных ім паслуг, то ў праекце закона «Аб турызме» пазначана: выканаўца (то-бок турагент) і тураператар «нясуць салідарную адказнасць па абавязальніцтвах, якія вынікаюць з дамовы аказання турыстычных паслуг». Гэты пункт падчас грамадскага абмеркавання выклікаў крытыку за бесканкрэтнасць з боку турфірмаў — уласна турагентаў: «Турагент самастойна не фармуе турпакет, а рэалізуе прадукт апаратара, атрымліваючы ўзнагароджанне ў сярэднім 6% ад кошту рэалізаванага турпакету. Было б лагічна ўскласці на турагента адказнасць па абавязальніцтвах у памеры атрыманага ім узнагароджання, а не стопрацэнтна, як гэта адбываецца ў адпаведнасці з дзейным законам».

З другога боку, ёсць і меркаванне спажыўца: «Я турыст, мне ўсё адно, як вы называецеся, — турагент, тураператар. Калі вы прадаяце прадукт, то вы за яго адказваеце, і павінны ўлічваць усе рызыкі. Калі ў нас у краіне ў іншых галінах адказвае той, хто прадае, чаму ў турызме павінна быць інакш?»

Яшчэ адным механізмам абароны рынку ў міністэрстве вырашана зрабіць Рэестр суб'ектаў турыстычнай дзейнасці, які цяпер мае збольшага даведачную функцыю. Цяпер без знаходжання ў ім дзейнасць турыстычнай фірмы будзе незаконнай. А выключыць адтуль могуць за сістэматычнае парушэнне заканадаўства аб турызме і абароне правоў спажыўцоў — ад трох разоў цягам года. Гаворка вядзецца не проста пра факты скаргаў, а менавіта пра факты парушэння заканадаўства, пацверджаныя пратаколам аб адміністрацыйным правапарушэнні ці судовай пастановай. Ну і ў рэестры будзе шмат інфармацыі пра гульцоў на турыстычным рынку, у тым ліку пра згаданыя фінансавыя гарантыі на выпадкі форс-мажору ці нядобрасумленнай працы.


Салігорскія тэрыконы

Фота www.m.Vandrouka.by

**Сайт прадпрыемства «Краснасельскбудматэрыялы», якое тут працуе, адкрываецца настойлівай просьбай «устрымацца ад наведвання крэйдавых кар'ераў». А таксама відэаролікам «Смяротная ўтопія» пра рызыкі для жыцця, якія тояць гэтыя мясціны**

# Стомленыя Мірам...

Сяргей БУЖАЎ

**Ад беларусаў нярэдка даводзіцца чуць, што па радзіме вандраваць нецікава — глядзець амаль няма чаго. А спытаеш пра тое, што суразмоўца бачыў, дык акажацца, што і не ва ўсіх абласных цэнтрах пабываў, а з нацыянальнага спісу must see дабраўся толькі да замкаў у Нясвіжы, Міры і да некалькіх храмаў. І той самы Косаўскі палац у Касцюшкавых мясцінах для многіх становіцца адкрыццём. Выбітнасцяў на вандроўныя маршруты хапае: і сур'ёзных — з пагружэннем у гісторыю, і больш лёгкіх для баўлення часу. «Новы Час» склаў падборку месцаў для незвычайных экскурсіяў, якія могуць зацікавіць як замежнікаў, так і стомленых Мірам беларусаў. Паехалі.**


Парк мініяцюраў

Фота www.ruzeja.by

## Смяротная ўтопія

Беларускія Мальдзівы — хіба самая вядомая з незвычайных мясцін. Гэта колішнія крэйдавыя кар'еры каля Ваўкавыску, што ператварыліся ў азёры з блакітнай вадой і скалістымі берагамі. Яшчэ гадоў 15 таму пра іх ведалі адзінкі, але, дзякуючы распаўсюду праз інтэрнэт экзатычных краявідных фотаздымкаў, мясціна стала нефармальна турыстычнай. Шыльды з папярэджаннямі пра небяспеку купання і запалохванне штрафамі людзей не спынялі. Наадварот, забароненая прыгажосць стала яшчэ больш папулярнай. Пасля чарады няшчасных выпадкаў улады пачалі думаць — ці ўпарадкаваць некалькі кар'ераў у зону адпачынку, ці закрыць сюды праезд і патруляваць наваколле. Спыніліся на другім варыянце.

Цяпер на «пляжах» тутэйшых Мальдзіваў шмат часу, як раней з начоўкамі ў намётах, не прабавіш — ахова ўпільнуе і папросіць сысці, а вось некалькі ўражвальных фотаў з абрываў зрабіць удасца. Зрэшты, мы да гэтага не заклікаем, бо тое сапраўды небяспечная прамысловая зона на радовішчы. Сайт прадпрыемства «Краснасельскбудматэрыялы», якое тут працуе, адкрываецца настойлівай просьбай «устрымацца ад наведвання крэйдавых кар'ераў». А таксама відэаролікам «Смяротная ўтопія» пра рызыкі для жыцця, якія тояць гэтыя мясціны: небяспечны рэльеф дна, глыбіня да 50 метраў, высокая верагоднасць абрынання берагоў і прасядання грунту, да ўсяго — крэйда раз'ядае ды сушыць скуру, асядае ў лёгкіх, правакуе астму і алергію.

Падобнае месца ёсць і ля вёскі Глушкавічы Лельчыцкага раёна. Там, дзе быў прамысловы кар'ер па здабычы камянёў, цяпер скандынаўскія краявіды. І калі на «беларускіх Мальдзівах» жывуць ракі, то там — чарапахі. А каля возера Гінькава і вёскі Сахновічы Глыбоцкага раёна можна пабываць у адзінай у нашай краіне пячоры. Што праўда, патрапіць у яе можна, практычна запаўзаючы. І ўнутры можна знаходзіцца толькі седзячы.

## Салігорскія тэрыконы

І яшчэ два пункты прамысловага турызму. З Мінску арганізуюцца экскурсіі на жодзінскі завод БелАЗ, які вырабляе славутыя самазвалы вышынёй 8 метраў, занесеныя ў Кнігу рэкордаў Гінеса. У турфірмаў кошты — ад 40 рублёў. У праграму экскурсіі, напрыклад, уваходзіць знаёмства з працэсам зборкі гіганцкіх машынаў і кава-гарбата з печывам у выглядзе самазвала. Дадаткова аплачваецца паездка на «БЕЛАЗе» — 85 рублёў.

У той самы вандровачны дзень яшчэ можна паспець з'ездзіць пад Салігорск, да тамтэйшых гор з адкідаў здабычы калійных угнаенняў «Беларуськалія». Гэта тэрыконы — разнавіднасць антрапагеннага ландшафту з пустых парод, што паўстаў у выніку падземнай распрацоўкі радовішчаў карысных выкапняў. Уяўляюць яны сабой нібы марсавыя краявіды. Натуральна, гэты аб'ект — не турыстычны і ахоўваецца. Але захапляльных фотаздымкаў салігорскіх тэрыконаў у інтэрнэце дастаткова шмат.

## Дагары нагамі

Такі атракцыён, як перакулены дом, ёсць шмат у якіх краінах. У Беларусі «дамок Элі», пастаўлены пад асаблівым вуглом, які парушае ў тых, хто заходзіць у яго, раўнавагу, пабудавалі за 30 кіламетраў ад Мінска — у музейным комплексе «Дукорскі маёнтак». На дадатковае выпрабаванне для вестыбулярнага апарату разнастайную мэблю размясцілі на столі. Цана наведвання перакуленага дома ды іншых аб'ектаў музейнага комплексу: будні — 6 рублёў, выходныя — 8, дзецям да 10 гадоў — задарма.

Што да іншых цікавых спарудаў: на Тураўшчыну клічуць адпачыць на Прыпяці ў адзіным у краіне плывучым гатэлі «Палессе» — па некалькіх маршрутах. Напрыклад, Тураў—Петрыкаў—Мазыр і назад. Падчас рачнога круізу можна павячэраць на адкрытай палубе, палавіць рыбу, можна спыніцца для пікніка. Нумар на дваіх чалавек абыдзецца ў трохі болей за 50 рублёў за суткі. Што праўда, гаворка пра «берагавое забеспячэнне». Паплыве гатэль пры мінімальнай загрузцы 10 асобамі. Яго можна зняць «пад ключ» для карпатыву: 6 гадзін ходавага часу абыдуцца ў амаль 900 рублёў.

І, калі ўжо будзеце ў Тураве, памятайце — у Нацыянальным парку «Прыпяцкі» можна пабываць на сафары. На 260 гектарах тут пракладзены аўтамабільны маршрут, а ўлетку перасоўвацца можна на чыгунцы. Удасца зблізку пабачыць аленяў, ласёў, дзікоў, зайцоў, зуброў. Супрацоўнікі парка кажуць, што вы абавязкова сустрэнеце і сфатаграфуеце жывёлаў. Адных дзікоў тут больш за 2,5 тысячы.

## Тур-катастрофа

Калі вам спадабаўся серыял «Чарнобыль», то, імаверна, зацікавіцеся вандроўкай у «зону». З нядаўняга часу ёсць магчымасць афіцыйна трапіць і ў беларускую яе частку. Хаця будзе і не так уражвальна, як на ўкраінскай — з тамтэйшым горадам-прывідам Прыпяццю. У Беларусі экскурсіі ладзіць Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік. У зону адчужэння можна выправіцца на 7 ці 10,5 гадзінаў. Самастойна паехаць туды нельга, толькі ў суправаджэнні супрацоўнікаў запаведніка. І пераначаваць там не атрымаецца. Калі хочаце выправіцца на некалькі дзён, то давядзецца спыняцца ў гатэлях Брагіна ці Хойнікаў.

Для групы да 11 асобаў на 7 гадзінаў экскурсія каштуе 340 рублёў. Калі вы з замежнікамі, то ім давядзецца за асобны кошт рабіць пропускі ў памежную зону. Будуць і дадатковыя дробныя выплаты: напрыклад, дазіметрычны кантроль па вяртанні з «зоны» (каля 2 рублёў).

Правілы строгія: нельга кранацца любых збудаванняў і раслін, падымаць пыл, сядаць на зямлю ці ставіць на яе фотаапарат з відэакамерай, піць ваду з калодзежаў і ручаёў, есці садавіну, ягады. Трэба мець закрытае адзенне і абавязкова — галаўны ўбор, варта насіць рэспіратар. Паехаць знянацку ў «зону» не атрымаецца: заяўка на вандроўку разглядаецца 10–15 дзён.

## Турысты-мініяцюрысты

У Беларусі маюцца адразу дзве калекцыі нашых выбітнасцяў у мініяцюры. Першая — мінскі музей «Краіна Міні» ў Палацы прафсаюзаў на Кастрычніцкай плошчы. Яго экспанаты — паменшаныя копіі больш за дзясятак славутасцяў: Брэсцкая крэпасць, Нясвіжскі замак, Чырвоны касцёл і Оперны тэатр у Мінску, касцёл у Гервятах ды іншыя. Збор экспанатаў будзе павялічвацца і павінен дасягнуць 70 макетаў. Кошт для грамадзян Беларусі — 7,5 рубля, для грамадзян іншых краінаў — 15.

Фонд «Краіна замкаў» ужо некалькі гадоў стварае мініяцюры замкаў і палацаў часоў ВКЛ, вырабляе іх з дапамогай 3D-прынтара. Музей павінен размясціцца на некалькіх гектарах, але пакуль мадэлі ў маштабе 1:25 знаходзяцца ў двары сядзібы ў вёсцы Родзевічы на Ашмяншчыне, якую набыў дырэктар фонду Алесь Варыкіш.


Перакулены дом

# Мова? Якая мова?

Алег НОВІКАЎ

**Такое ўражанне, што афіцыёз Пуціна ўзняты па трывозе. Задача — давесці, што прычынай самаспалення ўдмурцкага навукоўца Альберта Разіна не магла быць моўная палітыка цэнтра ў нацыянальных аўтаноміях.**




Фота www.svoboda.org

Нагадаем, каля будынка Дзяржаўнага савета Удмуртыі ў Іжэўску 10 верасня падпаліў сябе 79-гадовы Альберт Разін, заслужаны навуковец Удмуртыі. Пагасіць жывы факел адразу не ўдалося. У выніку, калі вучонага транспартавалі ў бальніцу, апёкамі было пашкоджана амаль усё цела, а агульны стан быў ацэнены як крытычны. Праз некалькі гадзін, паводле паведамленняў медыкаў, пацыент памёр.

Матывацыя ўчынку Разіна не выклікае сумневаў. Побач з месцам суіцыду былі знойдзеныя транспаранты, у якіх нябожчык патрабаваў выратаваць удмурцкі этнас. «І калі заўтра мая мова знікне, то я гатовы сёння памерці», — было напісана на адным з іх. Агульнавядома, што пры жыцці Разін з'яўляўся актыўным удзельнікам удмурцкага нацыянальнага руху.

Ён таксама быў адным з падпісантаў звароту да кіраўніцтва аўтаноміі з патрабаваннем не падтрымліваць законапраект аб вывучэнні нярускіх моваў у школах. Згодна з дакументам, мовы тытульных нацый аўтаномій Расіі перасталі быць часткай абавязковай школьнай праграмы, што пагрошае, на думку актывістаў, трывожны трэнд. Так, згодна з перапісамі 2002 і 2010 гадоў, толькі за 8 гадоў колькасць людзей, якія валодаюць удмурцкай мовай, скарацілася ў рэспубліцы на 30 працэнтаў — да 324 тысяч.

Аўтадафэ, ды яшчэ на палітычнай глебе — неардынарная падзея не толькі для расійскай глыбінкі, але нават для сусветнай прэсы. Трагедыі Разіна надалі ўвагу шматлікія замежныя СМІ. Не прайшлі міма трагедыі навукоўца і палітыкі. Спікер эстонскага парламента выказаў спачуванні з нагоды таго, што блізкі эстонцам па фіна-угорскай групе народ менавіта такімі метадамі адстойвае права на мову. Украінскія медыя на прыкладзе моўнай асіміляцыі ва Удмуртыі распавядаюць, што чакае Украіну ў выпадку паразы ў цяперашнім супрацьстаянні з Расіяй.

Таму не дзіўна, што ў расійскіх праўладных медыя адмаўляюць тэзіс пра тое, што моўнае пытанне магло нейк матываваць вучонага на суіцыд. Паводле такіх медыя, моўныя праблемы ў Расіі лёгка вырашаюцца ў рамках шматлікіх культурных і адукацыйных ініцыятыў. У якасці доказу прыводзіцца вядомы музычны фальклорны калектыў «Бурановские бабушки» з удмурцкай вёскі Буранава. У рэпертуары калектыву ёсць удмурцкія песні, якія звычайная аўдыторыя ўспрымае «на ўра». Паводле прапаганды, такая рэакцыя — лепшае сведчанне таго, што сітуацыя з удмурцкай мовай цалкам здавальняючая.

Адначасова расійскія праўладныя медыя спрабуюць нівеляваць аўтарытэт нябожчыка, звяртаючы ўвагу на кантраверсійныя фрагменты яго біяграфіі. Напрыклад, у архівах знойдзена яго дысертацыя, напісаная ў 1970-х гадах, якая была прысвечана поспехам сельскай гаспадаркі Удмуртыі ў часы «развітога сацыялізму». Звяртаюць увагу на тое, што апошнім часам Разін сам сябе называў шаманам і ў перапынках паміж рытуаламі даводзіў, што можа лёгка паляпшаць здароўе містычнымі метадамі.

Захапленне Разіна дахрысціянскімі культурнымі традыцыямі Удмуртыі таксама аказалася запатрабавана. Прадстаўнік РАН сцвярджае, што Разін не мог падпаліць сябе, паколькі любіў мясцовую культуру, а такія практыкі, як самаспаленне, нехарактэрныя ўдмурцкай народнай традыцыі. Як заявіў навуковец: «Самаспаленне з'яўляецца даволі распаўсюджанай формай крайняга палітычнага пратэсту ў азіяцкіх краінах, на Тыбеце, Чэхаславакіі і Польшчы, але не ва Удмуртыі».

**У расійскіх праўладных медыя адмаўляюць тое, што моўнае пытанне магло матываваць вучонага на суіцыд. Паводле іх, моўныя праблемы ў Расіі вырашаюцца ў рамках шматлікіх культурных і адукацыйных ініцыятыў**

Калі не пытанне мовы, то што тады прымусіла Альберта Разіна падпаліць сябе? Канкрэтнага адказу на гэтае пытанне няма. Альтэрнатыўныя версіі прапануюцца, хутчэй, як намёкі. Адна з удмурцкіх чыноўніц кажа, што асабіста ведала Разіна, і ніякіх суіцыдальных схільнасцяў у яго не было. Пайсці на такі фатальны крок Разіна мог падштурхнуць нейкі раптоўны знешні фактар. Менавіта пошукам гэтага спускавога механізму заняты Следчы камітэт. «Не выключана, што нейкія людзі аказалі псіхалагічны ўплыў на гэтага чалавека», — разважаюць у Савеце пры прэзідэнце Расіі па развіцці грамадзянскай супольнасці і правах чалавека.

Ну і, як вядома, не абышлося без падазрэння наконт старанна падрыхтаванай правакацыі. На гэта, нібыта, паказваюць вельмі прафесійныя здымкі ўчынку Разіна. Чаму ў аператара падчас здымкаў не дрыжыць рука, чаму ён так спакойна рэагуе на жудасную сцэну — задаюць пытанні крамлёўскія прапагандысты, адразу выдаючы адказ: хтосьці хацеў «расхістаць» фіна-угорскую супольнасць у Расіі.

Пры гэтым прыводзіцца экстравагантная думка, што абавязковая форма навучання ўдмурцкай мове на самой справе… скарачае колькасць яе карыстальнікаў! Такую дзіўную выснову дазваляе зрабіць агульнапрызнаны факт нізкага прафесійнага ўзроўню педагагічных кадраў на месцах. Таму замест выкладання настаўнікі часта проста прымушаюць зубрыць прадмет. «Моўны прымус», хутчэй, выклікае ў дзяцей агіду да ўдмурцкай мовы. Затое права свабодна абіраць мовы, наадварот, выклікае ў дзяцей цікавасць да ўдмурцкай і дапамагае яе папулярызацыі.

Уся гэтая цудоўная ідылія пра росквіт мовы ўдмуртаў лёгка разбіваецца пры наведванні мясцовых інтэрнэт-форумаў. «У гэтым свеце ўдмурцкай мове месца не застаецца. Хіба толькі ў музеі», — сумна канстатуюць тутэйшыя юзеры.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### БРАЗІЛІЯ. Серыялы як зброя грамадскасці

Мыльныя оперы ў Бразіліі, якія тут называюцца «навелы», вельмі часта выклікаюць бурныя грамадскія дыскусіі, і нават часам прыводзяць да вялікіх рэформаў — напрыклад, змянення ўмоваў працы, палітыкі наконт наркотыкаў і гэтак далей. Падобны феномен выклікаў і серыял «Аруанас», які выйшаў на экраны ў жніўні. У цэнтры сюжэту — прыгоды чатырох кабетаў у амазонскай сельве. Усе яны — грамадзянскія актывісткі, якія намагаюцца выратаваць трапічны лес ад лесарубаў, магнатаў і карумпаваных палітыкаў. За першы месяц серыял паглядзелі прыкладна 23 мільёны чалавек. І, як сцвярджаюць экалагічныя арганізацыі, менавіта «Аруанас» спрыяў цяперашнім пратэстам супраць адміністрацыі прэзідэнта Балсанару, якая скасоўвае законы аб ахове амазонскага лесу. Больш за тое, падаецца, што серыял дасць штуршок цэламу накірунку. Поспех «Аруанасу» ўжо выклікаў інтарэс у мясцовых праваабарончых арганізацый і ЛГБТ-ініцыятыў, якія таксама гатовыя інвеставаць у вытворчасць серыялаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Спадчыннікі Залатой Арды

Знайшоўся прэтэндэнт на спадчыну Залатой Арды. Прэзідэнт Казахстана Такаеў у сваім першым пасланні абвясціў пра афіцыйнае святкаванне 750-годдзя яе стварэння. На думку каментатараў, гаворка ідзе пра новую дзяржаўную ідэалогію. Хутчэй за ўсё, зварот да спадчыны Залатой Арды павінен забіць двух зайцаў. Нацыянал-патрыёты атрымліваюць рэальныя падставы для росту нацыянальнага гонару, паколькі «сімвалічны капітал» і прэстыж Залатой Арды вельмі высокія. Неказахская, славянская частка казахскага грамадства, у сваю чаргу, будзе ўспрымаць Казахстан як спадчынніка імперыі, дзе жылі іх славянскія продкі і дзе «панавала рэлігійная памяркоўнасць і этнічная талерантнасць». Што атрымаецца на практыцы, цяжка сказаць. У тым ліку таму, што культ Залатой Арды запатрабуе перапісаць ужо большменш аформленую казахскую нацыяналістычную ідэалагему.

**Паводле казахскай прэсы**

### УКРАІНА. Фільм, які аб'яднаў усіх

Ва ўкраінскіх медыя жартуюць, што нарэшце ў палярызаваным украінскім грамадстве знайшлася тэма, вакол якой могуць аб'яднацца ўсе. Такую ролю адыгрывае антыпатыя да фільму «Заборонений», які выйшаў на экраны 5 верасня і распавядае пра жыццё паэта-дысідэнта Васіля Стуса, рэпрэсаванага савецкай уладай. Нечакана для ўсіх стужку крытыкуюць прадстаўнікі самых супрацьлеглых лагераў. Усе адзначаюць стылістычную неадназначнасць, фрагментарнасць, не заўсёды пераканаўчую акцёрскую гульню, штучны пафас. Найбольш творам незадаволеныя нацыяналісты. Галоўным недахопам фільму «Заборонений», на іх думку, з'яўляецца тое, што вобраз галоўнага героя адлюстроўваецца без разынак, як у савецкай стужцы пра яшчэ аднаго героя-рэвалюцыянера. У дадатак фільм падрывае версію пра тое,што Стус стаў ахвярай таталітарнай сістэмы. Паводле фільму, паэта забівае савецкі гей, які працуе ахоўнікам на зоне. Да гэтага ён на балоце застрэліў свайго палюбоўніка і напіўся гарэлкі. У запале крытыкі дапускаюць нават версію пра тое, што здымкамі займаліся антыўкраінскія сілы, якім трэба збэсціць памяць вялікага паэта і дысідэнта. Між тым, магчыма, гэта яшчэ не фінал. 9 сакавіка 2020-га запланаваная прэм'ера стужкі пра іншага паэта. У фільме «Тарас Шаўчэнка — першы самурай» гледача чакае незвычайны погляд на Кабзара, які валодае ўсходнімі адзінаборствамі. Паколькі Шаўчэнка — культавая фігура для ўкраінцаў, шмат хто можа не зразумець новых трактовак яго асобы.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІРАН. Смерць фанаткі

Іранская зборная па футболе 10 кастрычніка павінна гуляць у Тэгеране вельмі важны матч з Камбоджай у рамках кваліфікацыі на Кубак свету. Між тым, будучы матч пачынае набываць усё больш скандальны характар. Усё праз смерць Сахар Хадаяры — 29-гадовай аматаркі футбола, якую раней затрымалі за спробу пад відам хлопчыка прайсці на стадыён. Паколькі ў Іране кабетам забаронена наведваць футбольныя матчы з удзелам мужчынаў, затрыманую прыцягнулі да адказнасці і ў выніку асудзілі на 6 месяцаў турмы. Каб не ісці ў зняволенне, Хадаяры падпаліла сябе і памерла праз тыдзень ад апёкаў. Драма маладой жанчыны выклікала сапраўдны шок не толькі ў Іране, аднак і ў свеце. Сябры жаночых зборных розных краін атакуюць офіс FIFA, патрабуючы ліквідаваць «гендарны апартэід» на іранскіх стадыёнах. Сярод часткі іранцаў папулярная ідэя байкатаваць матч 10 кастрычніка. Іншыя патрабуюць назваць галоўны стадыён у гонар нябожчыцы. Што тычыцца іранскіх уладаў, яны назвалі смерць фанаткі «горкім інцыдэнтам». Акрамя таго, у блізкай да ўраду прэсе допускаюць, што яна была не зусім псіхічна здаровая.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Страчаная спадчына:
## у Беларусі засталіся тры драўляныя сінагогі

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Калісьці ў кожным беларускім мястэчку было прынамсі па адной, а часцей — па некалькі сінагог. Вялікая іх частка была драўлянай. Сёння ў Беларусі каля 140 сінагог, з іх 10 дзейнічаюць, астатнія прыстасаваныя пад жытло, установы культуры і нават... баптысцкія храмы. А драўляных габрэйскіх культавых будынкаў засталося ўсяго тры.**

Сінагогі з'явіліся на тэрыторыі Беларусі ў XIV стагоддзі. Габрэі перасяляліся да нас з украінскіх, польскіх, нямецкіх земляў. Вядомыя Вітаўтавы «Прывілеі жыдам» Берасця (1388 г.) і Гародні (1389 г.). Згодна з гэтым дакументам, іудзеям дазвалялася свабоднае выкананне рэлігійных абрадаў. У XVI стагоддзі габрэі жылі ўжо па ўсёй Беларусі. У пачатку XX стагоддзя яны складалі 14% насельніцтва беларускіх земляў (каля 1,2 мільёна чалавек) і больш за 80% насельніцтва гарадоў і мястэчак. Гэта была другая па колькасці пасля беларусаў этнічная група.

Усё змянілася пасля Другой сусветнай вайны, падчас Халакосту загінулі каля 96 працэнтаў беларускіх габрэяў. У апошнія дзесяцігоддзі існавання СССР у габрэяў з'явілася магчымасць з'ехаць у Ізраіль. У памяць пра іх засталося матэрыяльнае ўвасабленне габрэйскай культуры — сінагогі. Вакол іх круцілася ўсё жыццё абшчыны. Што ж такое сінагогі і як яны выкарыстоўваюцца цяпер?

Сінагога — гэта любое памяшканне, прызначанае для грамадскай малітвы, што заўсёды было і застаецца яе галоўнай функцыяй. Аднак у Талмудзе сінагога толькі аднойчы названая «домам малітвы» (бейт-тфіла). Як правіла, яе функцыі значна шырэйшыя — са старажытных часоў і па сённяшні дзень яна называлася «домам сходу» (бейт-кнесет), ці ў больш звыклай для нас грэчаскай версіі — «сінагога» (συναγωγή). У адпаведнасці са сваёй назвай, сінагога з'яўляецца месцам адукацыі, правядзення сустрэчаў, сходаў, розных урачыстасцяў як для ўсёй абшчыны, так і для яе асобных чальцоў.

У беларускіх мястэчках пачатку XX стагоддзя царква, касцёл і сінагога (часам — і мячэт) стаялі ў цэнтры. Толькі галоўныя сінагогі ў буйных гарадах былі муравамі. Большасць іудзейскіх храмаў была ўзведзена з дрэва. Гэтыя будынкі лёгка гарэлі (і мэтанакіравана спальваліся падчас Другой сусветнай вайны нямецкімі войскамі). Да таго ж, культавыя будынкі ўсіх канфесій знішчаліся ў савецкі час. Таму з каля 140 сінагог Беларусі (існуючых, перабудаваных, у стане руінаў) толькі тры — драўляныя: у Любані, Івянцы і Лепелі.

У Беняконях, Парычах і Лапічах будынкі драўляных сінагог абкладзеныя цэглай, а ў Калінкавічах будынак былой сінагогі абшыты сайдынгам і пакрыты металадахоўкай. Ніводзін з гэтых будынкаў не застаўся месцам культу і не мае статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Івянецкая сінагога была ўзведзеная ў 1912 годзе. Пасля Другой сусветнай вайны яе перабудавалі — атынкавалі паўднёвы фасад. Да 2009-га сінагога выкарыстоўвалася як рэпетыцыйныя зала, а з 2015-га тут працуе будаўнічая крама. На сцяне ўнутры будынка захаваўся адзіны ў Беларусі малюнак арон кодэша (каўчэг для скруткаў Торы) у тэхніцы ілюзорнага жывапісу.


Будынак сінагогі ў Лепелі. Фота Наталлі Агарэлышавай


Будынак Малой сінагогі ў Любані да рэканструкцыі. Фота з кнігі «Синагоги Беларуси. Каталог существующих зданий».

Лепельская сінагога 1918 года пабудовы цяпер прыстасаваная пад жытло для сямі ці васьмі сем'яў. Адна з кватэр, з так званымі «вокнамі-антрэсолямі», зробленая на месцы галерэі, дзе маліліся жанчыны.

Актывісты спрабавалі надаць будынку статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, аднак вердыкт навукова-метадычнай Рады пры Міністэрстве культуры быў наступны: «Недастаткова матэрыялаў для ўзяцця аб'екта пад ахову дзяржавы».

Падчас круглага стала, прысвечанага праблемам аховы драўлянага дойлідства, які прайшоў 11 верасня ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту, старшыня Таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч патлумачыў: «Гэта не такое і кепскае рашэнне. Можна шукаць дадатковыя матэрыялы, а помнік часова ахоўваецца дзяржавай, яго не могуць ні знесці, ні перабудаваць, пакуль Рада не адмовіла канчаткова ва ўнясенні ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей».

Малая сінагога ў Любані ў 2010–2012 гадах была абабітая вагонкай і займела дадатковы дэкор. Цяпер тут працуе дзіцячая школа мастацтваў. На будынку вісіць шыльда з Вялікай любанскай сінагогі, якая была знесена ў 2009 годзе.

Некаторыя драўляныя сінагогі мы страцілі зусім нядаўна. Яны перажылі вайну і савецкі атэізм, перамаглі разбуральны ўплыў часу, але не вытрымалі змагання за добраўпарадкаванне. Гэтыя страты значныя не толькі для беларускай спадчыны. Як піша даследчык Аляксандр Лакотка, «драўляныя сі-


Будынак сінагогі ў Івянцы. Фота з кнігі «Синагоги Беларуси. Каталог существующих зданий».


Будынак Малой сінагогі ў Любані пасля рэканструкцыі. Фота з кнігі «Синагоги Беларуси. Каталог существующих зданий»


Сінагога ў Нароўлі, 1927 г. Мастак А. Р. Касцялянскі


Фота сінагогі ў Цярэспалі. Музей габрэяў у Парыжы


Будынак сінагогі ў Калінкавічах. Фота з кнігі «Синагоги Беларуси. Каталог существующих зданий»



Будынак сінагогі ва Уваравічах (Буда-Кашалёўскі раён). Знесеная ў 2014 годзе. Фота з кнігі «Синагоги Беларуси. Каталог существующих зданий»



Будынак сінагогі ў Ашмянах. Фота з кнігі «Синагоги Беларуси. Каталог существующих зданий»



Фасад ашмянскай сінагогі. Фота з кнігі «Синагоги Беларуси. Каталог существующих зданий»

нагогі арэалу ўсходняй Еўропы вылучаліся арыгінальнасцю і спецыфічнай архітэктурай у той час, як у Цэнтральнай і Заходняй Еўропе іх асаблівасці не набылі такога яркага праяўлення».

Ён адзначае, што беларускія драўляныя сінагогі вызначаліся кансерватыўнасцю, кананізацыяй архаічных форм. У параўнанні з праваслаўнай і каталіцкай культавай архітэктурай іудзейская вылучалася ўладкаваннем сутарэнняў на цэнтрычнай сістэме апор. Інтэр'еры аздабляліся разьбой, дзе выявы хімер спалучаліся з мясцовымі жывёламі і птушкамі: бусламі, лісіцамі, мядзведзямі, пеўнямі. У сінагогах Заходняй Еўропы аздаблення раслiннымі і жывёльнымі матывамі не было, арнамент больш геаметрызаваны.

На круглым стале ў Музеі народнай архітэктуры і побыту магістрантка ЕГУ Наталля Агарэлышава выдзеліла праблемы, якія яднаюць Беларусь і Літву ў сферы аховы габрэйскай спадчыны. Здараюцца выпадкі вандалізму і нецалерантнасці. Праз памяншэнне колькасці габрэйскага насельніцтва пасля Другой сусветнай вайны знікае і памяць аб ім. Паўстае пытанне наконт выкарыстання сінагог: малалікія абшчыны не могуць утрымліваць будынкі. Ці маюць права беларусы і літоўцы змяняць функцыі культавай архітэктуры? У Літве лепш наладжаны дыялог паміж габрэйскімі супольнасцямі, мясцовымі ўладамі, якія дэманструюць вялікую зацікаўленасць, і ўстановамі культуры. Дзейнічаюць мясцовыя ініцыятывы і фонды, ёсць фінансаванне Еўрасаюза.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, сёння ў Беларусі жыве каля 12 тысяч габрэяў і працуе дзесяць сінагог (тры — у Мінску). Сярод іх — будынкі з унікальнымі па сваёй захаванасці архітэктурнымі рашэннямі. Напрыклад, у Ашмянах каменная сінагога мае драўляную столь з адваротным зводам і задыякальным роспісам. У адрозненні ад Польшчы, дзе габрэйская спадчына ўспрымаецца часткай нацыянальных здабыткаў і ахоўваецца за кошт шматлікіх культурных фондаў, Германіі, дзе выступае нагодай для пераасэнсавання гісторыі, Літвы, дзе моцна ўцягнута ў турыстычную індустрыю, беларускія сінагогі не настолькі «раскручаныя», пакуль чакаюць сваіх даследчыкаў, турыстаў і піяршчыкаў.

# Генерал ад беларусізацыі

Сяргей ЧЫГРЫН

**Унікальны чалавек жыве ў Лідзе. 21 верасня ён адзначае сваё 65-годдзе.**



**Ды ён даўно ўжо не падпалкоўнік, бо мы, беларусы, яму прысвоілі ганаровае званне генерала ад беларусізацыі. Прысвоілі гэтае званне напярэдадні яго 65-годдзя, якое наш шчыры беларус адзначыць 21 верасня**

Гэта пісьменнік і журналіст, культуролаг і грамадскі дзеяч Станіслаў Суднік. Той самы, які некалі ў Казахстане выдаваў беларускамоўную газету «Рокаш». Той самы, які выдаў «Кароткі расійска-беларускі вайсковы слоўнік», «Шыхтавы статут Беларускага войска», а разам з Сяргеем Чыславым — «Расійска-беларускі вайсковы слоўнік» на 8 тысяч словаў. Той, які напісаў і надрукаваў шэраг паэтычных зборнікаў, сярод якіх — «Пагоня за мову», «Мой Грунвальд», «Лідскія скрыжалі», «Літва». Той, які сёння рэдагуе газету ТБМ «Наша слова» і рэгіянальны часопіс «Лідскі летапісец». Той самы... Спіс гэты можна доўжыць.

Станіслаў Суднік — падпалкоўнік, узнагароджаны медалём «За баявыя заслугі» і ордэнам «За службу Радзіме». А я, калі б гэта было ў маіх сілах, даў бы яшчэ званне заслужанага работніка культуры Беларусі і ўзнагародзіў бы яго ордэнам Францыска Скарыны, а таксама Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь за яго грамадскую і літаратурную дзейнасць. Ён даўно гэтага заслугоўвае. Але такіх людзей улада сёння ў Беларусі ўшаноўваць не любіць.

Шчыра кажучы, калі б кожны раён у Беларусі меў хаця б па адным Станіславу Судніку — Беларусь была б іншай. Штогод на Дзень мовы ён праводзіць у Лідзе беларускамоўныя дыктоўкі, у якіх прымаюць удзел некалькі тысяч чалавек. У якім яшчэ раёне Беларусі такое адбываецца? Чаму ў Лідзе ёсць такі арганізатар, і там праводзяцца дзясяткі розных сустрэч і прэзентацый, адкрыццяў і ўшанаванняў, а ў многіх райцэнтрах — мёртвая цішыня? Усе спяць летаргічным сном, а хочуць, каб нехта на сподачку прынёс тое, чаго яны жадаюць...

Станіслаў Суднік родам з вёскі Сейлавічы Нясвіжскага раёна. І родную Нясвіжчыну ён таксама не забывае. Мясцовыя вертыкальшчыкі яго там дужа баяцца, бо ім прасцей сядзець у Нясвіжы і нічога не рабіць, не думаць, не вырашаць. Прасцей нешта добрае забараніць, і каб было ціха-ліха. Але ціха сядзець ім Станіслаў Суднік не дае, пастаянна трывожыць іх сваімі ідэямі і задумамі, мерапрыемствамі і прапановамі. Ён і там пачаў выдаваць літаратурна-мастацкі зборнік «Нясвіжскі ўток».

Так і жыве на нашай зямлі гэты няўрымслівы, апантаны жыццём і справамі былы падпалкоўнік Станіслаў Суднік. Ды ён даўно ўжо не падпалкоўнік, бо мы, беларусы, яму прысвоілі ганаровае званне генерала ад беларусізацыі. Прысвоілі гэтае званне напярэдадні яго 65-годдзя, якое наш шчыры беларус адзначыць 21 верасня. Да маіх словаў далучыліся і землякі Станіслава Судніка.

«Станіслава Судніка я ведаю з вясны 2000 года, калі ён пасля дэмабілізацыі з войска пасяліўся ў Лідзе — кажа гісторык і пісьменнік Леанід Лаўрэш з Ліды. — А чытаць пра яго ў беларускай прэсе мне прыходзілася з пачатку 1990-х гадоў: пра беларускую школу ў далёкім казахскім гарнізоне, пра беларускую газету і гэтак далей. Здаецца, першы раз я пра яго прачытаў у газеце «Наша слова», якую ён зараз рэдагуе. Я лічу Станіслава сваім сябрам і вельмі цаню добрыя адносіны з гэтым чалавекам.

Думаю, галоўнай рысай яго характару з'яўляецца неверагодная працаздольнасць. Ён рэдактар трох афіцыйна зарэгістраваных выданняў, але толькі тое, што ён аднаасобна кожны тыдзень выдае «Наша слова», многага вартае. Бо з першага нумару ў Лідзе, з 1 лістапада 1997 года, Станіслаў не мае адпачынку, не мае водпуску — і кожную нядзелю і панядзелак робіць макет газеты, кожны аўторак уладжвае справы з друкарняй, а потым займаецца рассылкай газеты падпісчыкам. І так — ужо 22 гады!

А колькі яшчэ часу патрабуюць унікальны і, магчыма, адзіны такі ў Беларусі краязнаўчы часопіс «Лідскі летапісец» ды літаратурны альманах «Ад лідскіх муроў» — выданні, без якіх немагчыма ўявіць інтэлектуальнае жыццё нашага рэгіёна! А ў апошні час ён дадаткова ініцыяваў выданне некалькіх рэгіянальных выданняў у іншых гарадах Беларусі. Станіслаў — сапраўдны «будзіцель», ёсць такі тэрмін у славянскіх народаў, так называлі нацыянальных інтэлігентаў, якія змагаліся за дзяржаўнасць і культуру сваіх народаў.

Суднік мае вельмі рэдкае сярод маіх знаёмых уменне знайсці агульную мову з рознымі людзьмі. Станіслаў заўжды шукае і знаходзіць згоду, бо ведае, што дамова — лепей за канфлікт. Пры шматлікіх кантактах гэта рыса характару гарантуе яму павагу і ўзаемаразуменне. Яго беларускасць выклікае цікаўнасць у абыякавых, павагу ў ворагаў і жаданне дапамагчы — у сяброў. Пра гэта Станіслаў пісаў у сваіх мемуарах: «Беларуская мова мне дапамагала, яна мяне ахоўвала, вяла па жыцці, забяспечвала, калі хочаце, месца ў самых розных калектывах і нават кар'ерны рост».

Станіслаў Суднік — аўтар вялікай колькасці краязнаўчых артыкулаў пра Лідчыну, якая стала яго сапраўднай другой радзімай. Ён любіць горад, у якім жыве, і сваёй творчай працай, мерапрыемствамі, якія ён арганізуе, робіць унікальны ўнёсак у культурнае жыццё горада і рэгіёна. У той жа час ён гадзінамі можа расказваць пра свае родныя Сейлавічы і нядаўна напісаў таленавітую і неверагодна цікавую паэму «Пілігрымка дадому» пра сваю малую радзіму, што пад Нясвіжам. Гэты вершаваны аповед ён стварыў на падставе легендаў сваёй вёскі і вусных успамінаў жыхароў Сейлавічаў. Збірае Станіслаў і навуковы матэрыял для кнігі пра сваю малую радзіму.

Я жадаю Станіславу доўгіх гадоў жыцця, напоўненага стваральнай працай на ніве беларускай культуры, жадаю дачакацца праўнукаў і не хварэць».

Старшыня Гродзенскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянцін Дубатоўка адзначае: «Ёсць на зямлі такія людзі, ад учынкаў якіх залежыць, па якім шляху пойдзе развіццё краіны, горада, мястэчка, альбо нават маленькай установы. Менавіта да гэтай кагорты Богам пазначаных людзей належыць Станіслаў Суднік. Немагчыма зараз уявіць, як развівалася б Ліда, каб там не жыў спадар Станіслаў Суднік. Гэта быў бы горад, дзе не віравала б грамадскае жыццё, дзе пасярод горада не было б дамка вядомага літаратара, грамадскага дзеяча Валянціна Таўлая, дзе не знайшлі б на паліцах шапікаў любімага ўсімі лідчанамі часопіса «Лідскі летапісец». Але і па-за межамі Ліды адчуваецца магутная постаць нашага сябра. Толькі за апошні год, пры непасрэдным удзеле Станіслава Судніка, у Навагрудку выйшаў літаратурна-краязнаўчы штогоднік «Стольны град», у Слоніме — літаратурны альманах «Паланэз», у Нясвіжы — «Нясвіжскі ўток».

«Пра Станіслава Судніка я ўпершыню пачуў ад слонімца Міхася Варанца ў сярэдзіне 1990-х, — згадвае грамадскі актывіст з Дзятлава Валерый Петрыкевіч. — Гэта адзін з тых, хто не забыўся, адкуль ён родам, не выракся роднай культуры і мовы, любіць і шануе яе, робіць усё магчымае і немагчымае, каб беларуская мова пашыралася ва ўсіх сферах жыцця, каб стала адзінай дзяржаўнай мовай у нашай краіне. У апошнія некалькі гадоў Станіслаў Суднік шмат дапамагае і Дзятлаўскай суполцы ТБМ. Ад імя ўсіх землякоў шчыра віншую Станіслава з юбілеем і жадаю яму здароўя і плённай працы на карысць роднай Беларусі!»

# БагатаДата

**На тыдні ёсць нагода на дзень пакінуць на стаянцы сваё аўто і павіншаваць ратавальнікаў, якія святкуюць 25-годдзе стварэння МНС. Яшчэ больш цікавых падзей, гадавін і юбілеяў — у нашым аглядзе.**

## 21 верасня

**Міжнародны дзень міру.** А яшчэ — **Міжнародная ноч кажаноў.**

**1689.** Ці то ў польскім Тыкоціне, ці то ў Беластоку нарадзіўся дзяржаўны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, адзін з яе самых багатых і ўплывовых магнатаў Ян Клеменс Браніцкі. Менавіта ён збудаваў раскошны барочны палац у Беластоку, які называюць падляшскім Версалем.

**1954.** У вёсцы Сейлавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся журналіст і выдавец Станіслаў Суднік. Аднавіў у Лідзе выданне газеты Таварыства беларускай мовы «Наша слова», што перастала выходзіць у Мінску.

**1959.** У Мінску нарадзіўся дзеяч адраджэнскага руху Віктар Івашкевіч. У сярэдзіне 1980-х гадоў быў адным са стваральнікаў падпольнай арганізацыі «Незалежнасць». У 1990-я — сакратар управы БНФ, рэдактар газеты «Рабочы», віцэ-прэзідэнт Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў. У 2002 годзе асуджаны на два гады абмежавання волі («хімія») за публікацыю артыкула «Злодзей павінен сядзець у турме» падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, у якім пракуратура ўгледзела паклёп на кіраўніка Беларусі.



Фота Юрыя Дзядзінкіна

## 22 верасня

**Сусветны дзень без аўтамабіля.**



**1919.** Цэнтральная беларуская рада Віленшчыны і Гродзеншчыны арганізавала ў Вільні настаўніцкія курсы для падрыхтоўкі настаўнікаў беларускіх школаў. Выкладчыкамі на гэтых курсах былі: Я. Станкевіч (загадчык курсаў), М. Гарэцкі, К. Душэўскі, Ф. Ждановіч, М. Кахановіч, М. Мараўская, В. Ластоўскі, Н. Ласковіч.

Дарэчы, першыя такія курсы ў Вільні дзейнічалі са снежня 1915-га па 23 верасня 1916 года. Створаныя яны былі школьнай камісіяй Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ва ўмовах германскай акупацыі для падрыхтоўкі настаўнікаў для віленскіх беларускіх школ. Выкладчыкі: А. Пашкевіч (Цётка), Б. Пачопка (загадчык курсаў), С. Іваноўская, В. Ластоўскі, І. Луцкевіч, А. Луцкевіч, У. Рымша, Ю. Менке і іншыя.

## 23 верасня

**Міжнародны дзень бісексуальнасці.**

**1924.** У Койданаве (цяпер Дзяржынск) на Міншчыне нарадзіўся паэт Артур Зэйдэль-Вольскі, сын пісьменніка Віталя Вольскага і бацька музыкі Лявона Вольскага. Працаваў адказным сакратаром часопісаў «Бярозка» і «Вясёлка», дырэктарам Тэатра юнага гледача і Дома літаратара.

**1994.** Было створана Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС, праз некалькі гадоў — проста МНС.



## 24 верасня

**1969.** У Гродне нарадзіўся паэт, загадчык літаратурнай часткай Гродзенскага тэатра лялек Юрый Гумянюк. Там ставіліся яго п'есы для дзяцей: «Баль у барона Мюнхаўзена», «Таямніца залатога пярсцёнка», «Калядное падарожжа».

## 25 верасня

**1939.** У Кіеве нарадзілася спявачка (меца-сапрана), народная артыстка СССР і Беларусі Святлана Данілюк. Салістка з 1966 года Опернага тэатра ў Мінску, а затым Белдзяржфілармоніі.

**1944.** У амерыканскім Нью-Брансвіку нарадзіўся акцёр Майкл Дуглас. Мае беларуска-яўрэйскае паходжанне: яго дзед і бабка Гершэль Даніловіч і Брына Занглель эмігравалі з Гомеля ў 1908 годзе.



## 26 верасня

**Еўрапейскі дзень моваў,** а таксама **Сусветныя дні мора, кантрацэпцыі і барацьбы за поўную ліквідацыю ядзернай зброі.**

**1629.** Паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай было заключанае Альтмаркскае замірэнне, якое скончыла вайну, што цягнулася ад 1600 года.

**1964.** З вёсак Баравыя, Купа, Малая Сырмеж, Наносы, Садоўшчына, Сцепянёва, Урлікі ўтвораны курортны пасёлак Нарач у Мядзельскім раёне на Міншчыне.

## 27 верасня

**Сусветны дзень турызму.**

**1909.** У вёсцы Скварцы Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся пісьменнік Лукаш Калюга. Сапраўднае імя і прозвішча — Канстанцін Вашына. У 1933 годзе арыштаваны ДПУ і асуджаны «як член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» на 5 гадоў ссылкі. Там быў зноў арыштаваны і ў выніку расстраляны. Апроч напісання ўласных твораў, Лукаш Калюга займаўся перакладамі. У прыватнасці, пераклаў на беларускую мову раман Ярaслава Гашака «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка».

**1944.** Сканаў акцёр Канстанцін Быліч. Выступаў у Вандроўным тэатры Уладзіслава Галубка, а затым у БДТ-1 (Купалаўскім тэатры). У прыватнасці, ён выканаў ролю Кастуся Каліноўскага ў аднайменным спектаклі Еўсцігнея Мірові ча. Быліч, па розных звестках, ці то памёр, ці то загінуў падчас тыгначнай катастрофы пры рээвакуацыі тэатра з Томска ў Мінск.

**1969.** У вёсцы Лышча Пінскага раёна Брэсцкай вобласці нарадзіўся адзін з самых вядомых беларускіх хакеістаў Эдуард Занкавец. Гуляў за зборную Беларусі і трэніраваў яе.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1523

Падпісана да друку 20.09.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.